PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 52 (2015) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 25 СНЕЖНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

*Ада Чачуга*

## Дзе ж вы, „Хлопцы-рыбалоўцы"?..



*Мікалай Ігнацюк з Рыбалаў.* **Фота Ады Чачугі**

Колькі то ўжо гадоў мінула? Было гэта ў восемдзесят першым. А ўсё тая непаседа Лідка Мартынюк. Як стала ў Рыбалах кіраўнічкай Дома культуры, дык мучыла і мучыла: давайце зробім калектыў! Вы, кажа, дзядзька Мікола, і так з Валодзем Супрунюком у царкве спяваеце, ды і вершы ў вас складаюцца гладка — хай жа і пра нас людзі пачуюць!

— Ну, сабраліся, — усміхаецца на той успамін Мікалай Ігнацюк. — Запрасілі Валю Ласкевіч з Беларускага таварыства. Некаторыя пасмяяліся, не верачы ў поспех гэтай справы, але грамадою вырашылі: спрабаваць варта.

Ітак на беларуска-беластоцкім культурным небасхіле бліснулі спевакі з Рыбалаў.

Адразу ў калектыве было восем асоб — чатыры жанчыны і столькі ж мужчын. Але з тымі кабетамі былі толькі клопаты: чым баба была больш галасістая, тым больш зайздросны быў яе мужык. Некаторых дык мы проста на каленях упрашвалі, каб дазволіў жонцы паехаць на нейкае выступленне, кажа Мікола Ігнацюк. А пасля знерваваліся і вырашылі: дамо рады і без баб! Сабраліся нас тады цэлая пажарная каманда, у якой я ездзіў шафёрам. Памятаеце, мы ж так і выступалі — у мундзірах пажарнікаў, ды ад таго часу сталі называць нас „Хлопцы-рыбалоўцы".

Памятаю, а як жа! Не раз даводзілася быць у журы розных аглядаў і бачыць, з якім энтузіязмам вітала іх публіка і як захапляліся імі члены журы, асабліва фалькларысты. Сучасны фальклор! Гэта ж сёння разынка ў нашай культуры. А Мікалай Ігнацюк быў нястомны. Вершы і музыку пісаў сам і, хаця на канцэртах яны спявалі розныя песні, то на аглядах — выключна песні, складзеныя ім. Мо і праблісквалі ў яго дзе-нідзе нотка ці нейкае слова з вядомай усім песні, але ці ж чалавек ад гэтага ўсцеражэцца... У галаве клубіліся думкі, на кожны агляд беларускай песні ён мог напісаць нешта новае.

У восемдзесят сёмым калектыў запрасілі на ўкраінскі фестываль у Сопат. Не-не! Не паехалі туды як украінцы, назвалі іх там: „Хлопцы з Падляшша". Многім нашыя песні, успамінае Мікалай Ігнацюк, спадабаліся, а адзін чалавек з Канады, Барыс Галубко, асабліва ўпадабаў сабе песню „Удавінае жыццё". Там была гаворка пра „вецер з Украіны". Справа ў тым, што калісь мой бацька ўсё паўтараў, што калі павее вецер з Украіны, з поўдня, значыцца, што ўжо можна выходзіць у поле. Калі ж будзе вецер з боку Варшавы — стане мокра, пойдзе снег з дажджом. Ні пра што іншае я не думаў. Пішу песні з жыцця, з прыроды. А яны нас адразу залічылі да ўкраінцаў. У Сопаце Барыс Галубко запісаў нашы песні і выдаў пласцінкай у Канадзе.

Вядома, у нас не пытаўся і ніякай аўтарскай належнасці не плаціў. Тады ўкраінцы запрапанавалі: калі б вы сталі спяваць па-ўкраінску, то мажа б мы пастараліся, каб Барыс Галубко вам выплаціў частку грошай. Ці не плануем стаць украінцамі? Ха-ха! Як я — Мікалай, дык як жа я магу запланаваць, што буду Васілём, га?!

Да нас і тады ў Сопаце людзі падыходзілі: хто вы? Беларусы, кажам мы. А чаму такая мова? — пытаюцца. А таму, што пры князі Уладзіміры Валынскім тры парафіі — Рыбалы, Пухлы і Трасцянка за Нарваю, з правага яе боку, належалі яму.

Эх, каб быў тады дзядзька яшчэ дадаў, што нават польскія вучоныя дзякуючы археалагічным раскопкам сцвярджаюць нёманскую культуру на гэтых тэрыторыях ужо 2—3 тысячы гадоў да новай эры! А хоць бы і той посуд, які тады рабілі з гліны з дамешкай вялікай колькасці травы і іншай раслліннасці... *)

Але і так „Хлопцы-рыбалоўцы" засталіся пры сваім. Хаця маюць жаль да нашых. У студзені дзевяноста трэцяга паехалі з Янкам Морданем, з яго тэатрам „Балаган", у Гдыню, на з'езд нацыянальных меншасцей. Ого-го! Колькі немцаў там назбіралася, грэкаў, літоўцаў, славакаў, украінцаў! А беларускіх прадстаўнікоў амаль не было відаць...

*Працяг на стар. 8*




*Калектыў "Хлопцы-рыбалоўцы" на аглядзе "Беларуская песня'87" у Беластоку.* **Фота з архіва**

## ДАПАМАГЧЫ МАРЫЛЬЦЫ

Большасць нашых чытачоў з Беласточчыны ведае ўжо з радыёперадач „Пад знакам Пагоні" пра цяжкую хваробу Марылькі Базылюк — настаўніцы беларускай мовы ў Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Марылю чакае дарагая аперацыя прышчэплівання касцявога мозгу ў Гематалагічнай клініцы ў Катавіцах. Суму, якую патрабуе шпіталь — 450 мільёнаў злотых — немагчыма ніякім чынам заплаціць з настаўніцкай пенсіі. Таму сябры і калегі Марылі Базылюк з бельскай „тройкі" стварылі „Фонд дапамогі Марыльцы". Гэты высакародны жэст бельскіх настаўнікаў варты таксама ўвагі і падтрымкі ўсіх знаёмых і сяброў Марылькі, якіх лёс кінуў па-за межы Беласточчыны. Такіх людзей ёсць нямала. Быў час, асабліва ў васьмідзесятыя гады, калі не было ніводнай культурнай беларускай імпрэзы, якой суарганізатарам не была б Марыля Базылюк. Мала ёсць у нашым асяроддзі людзей з такой незвычайнай індывідуальнасцю. Яе хуткае вяртанне да здароўя патрэбнае не толькі яе ўласным дзеткам, але таксама вучням з бельскай „тройкі" і беларускай культуры ўвогуле.

Усіх зацікаўленых фінансавай падтрымкай „Фонду дапамогі Марыльцы" просім дасылаць грошы на рахунак: 490410-955-132, BRR Rolbank SA, Filia w Bielsku Podlaskim з прыпіскай: „Fundacja pomocy Marylce".

Чытачам „Нівы", якія Каляды святкуюць паводле новага стылю, жадаем спакойнага святочнага адпачынку.

Рэдакцыя

## Увага чытачы!

У чарговым нумары „Нівы", які выйдзе з датай 1 студзеня 1995 года, будзе надрукаваны „Беларускі каляндар на 1995 год". „Ніву" з календаром будзе можна купіць у кіёсках „Рух" і поштах на Беласточчыне на працягу цэлага месяца студзеня.

Рэдакцыя

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W Sejmie odbyła się dyskusja o roli inteligencji i o tym, czy warto jej płacić. Na prawie pustej sali siedziały tylko grupy posłów z Unii Wolności i Unii Pracy. Partie rządzącej koalicji reprezentowane były przez pojedynczych mówców.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 379)*

Ніхто яшчэ не выйграў выбараў галасамі інтэлігенцыі.

* * *

*Oprócz 8-milionowej diety poselskiej (nieopodatkowanej) i ryczałtu 15 mln, na każdego posła partia otrzymuje 4,5 mln miesięcznie. Ci, których społeczeństwo wybrało, nie obsługują go za darmo. Każdy parlamentarzysta inkasuje ponadto z kasy Sejmu lub Senatu 28 mln zł miesięcznie (nieopodatkowane) na utrzymanie swojego biura.*

*(Polityka, nr 49)*

Маючы такі „шмаль”, хто будзе сядзець у Сейме і паміраць з нудаў?

* * *

*Miniony okres zwany niekiedy dyktaturą proletariatu był epoką niezwykłych odkryć i eksperymentów. I kiedy wydawało się, że nic nie jest w stanie przyćmić wielkich osiągnięć nauki socjalistycznej, w Zakopanem odkryto grób Stanisława Ignacego Witkiewicza i znaleziono w nim żałosne resztki po jakiejś kobiecie. Przerobienie artysty na kobietę i dodatkowo po śmierci jest wspólnym osiągnięciem naukowców polskich i radzieckich.*

*(Gazeta Współczesna, nr 232)*

* * *

*Młode państwo białoruskie stanowi obiekt zainteresowania obcych wywiadów. UOP zaprzecza jakoby uprawiał na Białorusi szczególne praktyki wywiadowcze.*

*(Rzeczpospolita, nr 277)*

* * *

*Stwierdzenie, że polscy podatnicy ponoszą koszty wspierania rolnictwa jest sformułowaniem nadzwyczaj łagodnym. W rzeczywistości państwo zabiera biednym i daje bogatym. W 1993 r. małżeństwo nauczycielskie płaciło 24 mln podatku i 50 mln na ZUS. Najbogatszy rolnik w gminie płacił 8 mln podatku i 2 mln na ZUS. Wspomniany rolnik posiada majątek wielomiliardowej wartości, w tym dwa samochody, nauczyciele mają tylko stary rower. System podatkowy w polskim wydaniu sprowadza się do karykatury sprawiedliwości społecznej.*

*(Wprost, nr 42)*

* * *

*Naszym krajem powinni rządzić ludzie kompetentni, moralnie nienaganni, którzy traktują swoją pracę jak służbę dla społeczeństwa, a nie jak zdobycz wyborczą.*

*(там жа)*

Гэта гучыць як разважанне філосафа пра этыку. Камуністычны капіталізм, які цяпер здамінаваў большасць краін Усходняй Еўропы, з'яўляецца эпохай, якой не прадбачыў нават сам прарок Ульянаў.

* * *

*Podczas Święta Niepodległości pod pomnikiem Józefa Piłsudskiego w Białymstoku prawie nie było młodzieży, choć jest jej w naszym mieście ponad 20 tysięcy — powiedział ksiądz Krasiński. Świadczy to o zatraceniu tego, co stanowi o naszej polskości, narodowym charakterze.*

*(Kurier Poranny, nr 257)*

Жах!!!

* * *

*Prezydent Wałęsa uczył się kiedyś angielskiego i publicznie używał obcych słów. Na przykład powtarzał często: „Oh, yes!” Kiedy zaczął się uczyć angielskiego zrobił już wyraźne postępy; mówi teraz: „Oh, yes, yes”. Premier Pawlak prawie nie ma wpadek językowych, bo prawie w ogóle nie mówi. Niektórzy posłowie wpisali na początku kadencji, że znają po trzy języki — 203 angielski, 375 rosyjski, ale nie potrafią w nich nic powiedzieć. Dobrze znają język ci, którzy za czasów PRL wyjeżdżali na stypendia zagraniczne za pieniądze podatników. Najlepiej z językami obcymi jest w klubach SLD i UW.*

*(Rzeczpospolita, nr 277)*

Паслам СЛД з Беласточчыны безумоўна лягчэй дагаварыцца са сваімі выбаршчыкамі на англійскай мове, чым на беларускай. Інтэлігентныя людзі заўсёды знойдуць супольную мову.

* * *

*W Anglii wystarczy aby polityka — nawet średniego szczebla — sfotografowano rozmawiającego z samochodu z prostytutką, aby zmusić go do rezygnacji ze stanowiska. W Stanach Zjednoczonych urzędnik państwowy nie może nie tylko nie przestrzegać prawa, ale nawet go omijać. Kandydatkę na prokuratora generalnego skompromitowało zatrudnienie do sprzątania biura nielegalnej emigrantki. Demokratyczna opinia publiczna nie toleruje kłamstwa wśrod własnych elit politycznych.*

*(Wprost, nr 49)*

Але на пачатку мусіць быць дэмакратычнае грамадства.

* * *

*W białostockim spotkaniu mniejszości narodowych z wiceministrem kultury i sztuki Michałem Jagiełłą uczestniczyli dwaj posłowie. Artur Smółko z UP bronił interesów podlaskich Ukraińców, Sergiusz Plewa z SLD, którego sympatie są po stronie BTSK, przekazał Jagielle słowa uznania za sposób, w jaki podchodzi do problemów mniejszości.*

*(Kurier Poranny, nr 262)*

У справе нацыянальных меншасцяў улада — як бачым — прадстаўляе маральна-палітычную еднасць.

* * *

*26 лістапада ў Віцебску меўся адбыцца Першы з'езд беларускіх нацыяналістаў, але міліцыя сілаю разагнала ягоных удзельнікаў.*

*(Свабода, н-р 45)*

Паводле аднаго з беластоцкіх паслоў, беларускія нацыяналісты заявілі таксама аб сваёй прысутнасці і ў Польшчы. Асаблівая прыкмета гэтых страшных індывідаў — карыстанне імі беларускай мовай нават на вуліцы і ў прысутнасці палякаў. На нашу думку, гэта нішто іншае, як палітычная правакацыя, накіраваная на парушэнне парадку ў III Рэчы Паспалітай. Добра, што ў абарону грамадства і інтарэсаў дзяржавы стаў выдатны палітык, выбраны галасамі беларускіх інтэрнацыяналістаў.

* * *

*W 250-tysięcznej armii polskiej jest 183 kapelanów. Na utrzymanie jednego żołnierza przypada rocznie 204 miliony, na kapelana 355 milionów złotych, czyli o 74 procent więcej. Z tego wynika, że służby mundurowe z poboru i wyboru znacznie mniej kosztują społeczeństwo niż służby mundurowe z powołania.*

*(Polityka, nr 43)*

# З мінулага тыдня

На ўстаноўчы сход **Клуба гмін польскіх** прыехала ў Варшаву 37 прадстаўнікоў самаўрадавых улад з усёй краіны. З нашага ваяводства ўдзельнічалі дэлегаты Беластока, Бельска-Падляшскага і Чорнай-Беластоцкай. Галоўныя мэты Клуба — папулярызацыя гмін, каардынацыя супольных дзеянняў, абмен інфармацыяй, дапамога ў распрацоўцы інвестыцыйных праектаў.

Звыш трыццаць асоб з Беластоцкага ваяводства ўзнагароджаны залатымі і сярэбранымі медалямі **„За заслугі для абароннасці краіны”**. Былі гэта бацькі, якіх прынамсі трох сыноў служылі ў Войску Польскім. Сярод узнагароджаных апынуліся, між іншым: **Люба Паўлючук** з Ляхоў (6 сыноў праходзілі вайсковую службу) ды **Марыя і Фёдар Карпюкі** з Бельска-Падляшскага (у іх — пяць сыноў-салдат).

**III Акруговы з'езд Уніі працы** адбыўся ў Беластоку. Прысутны на з'ездзе пасол **Артур Смулка** сказаў, што найбольшай пагрозай для рэформ і дэмакратыі ў краіне з'яўляецца сам прэзідэнтт РП. З'езд прыняў пастановы аб абмежаванні паўнамоцтваў прэзідэнта ў будучай Канстытуцыі і скасаванні Сената, а таксама аспрэчыў сеймавую пастанову аб заробках у бюджэтнай сферы.

**II Ваяводскі з'езд Сацыял-дэмакратыі Рэспублікі Польшча** праходзіў у Беластоку. Дэлегаты выказаліся за памяшчэнне ў Канстытуцыі запісу аб паветах і заявілі большую актыўнасць СДРП у самаўрадах. Старшынёю Ваяводскай Рады паўторна выбраны пасол **Станіслаў Малішэўскі**, а сакратаром — **Эдвард Беляк**.

Таварыства аховы радыёслухача і тэлегледача зарэгістравана ў Ваяводскай управе ў Беластоку. Ініцыятарам заснавання гэтай арганізацыі выступіў **Ян Шафранец** — член Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання. Мэта новастворанага таварыства — заахвочваць паказваць у перадачах асабовыя, маральныя і патрыятычныя ўзоры шляхам спасылкі на сямейную традыцыю, культуру і гісторыю.

**Улады горада Беластока** далі дабро на арганізацыю прыгарадскога **аэрадрома ў Крыўлянах**, на якім будуць прызямляцца пасажырскія і грузавыя самалёты не толькі з Польшчы, але і ўсёй Еўропы. Улады разлічваюць, што будова пачнецца ўлетку будучага года.

**Беластоцкі куратар Тадэуш Калюта** адмяніў тэрмін зімніх канікулаў, якія раней Міністэрства нацыянальнай адукацыі назначыла на 22 студзеня. Улічваючы просьбы настаўнікаў і бацькоў, куратар вырашыў, што канікулы ў **Беластоцкім ваяводстве** будуць працягвацца **з 30 студзеня да 11 лютага 1995 г.**

**У Гайнаўцы** здадзены ў карыстанне новы будынак банка РКО ВР, які вылучаецца нетыповай для гэтага горада архітэктурай. Будынак, па праекту інж. **Кшыштафа Браньскага**, быў узведзены ў даволі хуткім часе — на працягу двух гадоў.

**У 15 салэцтвах Гарадоцкай гміны** будуць расстаўлены кантэйнеры для смецця, каб такім чынам спыніць забруджванне навакольных лясоў хатнімі адкідамі. У будучым такія кантэйнеры трапяць у астатнія 20 вёсак.

**Каля 80 каштоўных ікон XVIII, XIX** і пачатку XX стагоддзяў выявіла паліцыя ў аўтамабілі маркі БМВ паблізу пагранічнага перахода ў Свецку. Пад замок папаліся два нямецкія і адзін украінскі грамадзяне.

**Супрацоўнікі Гранічнай стражы** ў Кузніцы-Беластоцкай затрымалі міжнародную групу рэкецёраў. У яе састаў уваходзілі шэсць грамадзян Беларусі і чатырох палякаў.

# ПРА З ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- \> Каляндар „Нівы” на 1995 г.
- \> Пратэст настаўнікаў з Пачатковай школы н-р 6 у Гайнаўцы супраць публікацыі ў „Ніве”.
- \> Смак хлеба печанага дома.
- \> Якім быў 1994 год.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Прызнанне Беларусі

Будапешцкая сустрэча НБСЕ — гэта не толькі важны міжнародны форум, але і магчымасць асабістых сустрэч кіраўнікоў дзяржаў. Акрамя гутаркі з Білам Клінтанам, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка вёў перагаворы з прэзідэнтамі Чэхіі, Венгрыі, Грузіі і Славакіі, а таксама ўдзельнічаў у трохбаковай сустрэчы першых асоб Польшчы, Украіны і Беларусі. На ёй вырашана наладзіць рэгіянальнае супрацоўніцтва Брэсцкай і Валынскай абласцей ды аднаго з прыгранічных ваяводстваў Польшчы. Аляксандр Лукашэнка і Лех Валэнса прынцыпова адобрылі неабходнасць асабістай сустрэчы.

Запрашэнне Аляксандра Лукашэнкі на прыём у гаспадароў сустрэчы расцэньваецца як прызнанне асаблівых заслуг Беларусі. Аб гэтым сказаў сам Арпад Генц — прэзідэнт Венгрыі, назваўшы Беларусь „героем гэтай сустрэчы, паколькі ваша дзяржава першай у сучаснай гісторыі добраахвотна і без усякіх умоў адмовілася ад валодання ядзернай зброяй”.

## Першая адстаўка

Намеснік прэм'ер-міністра Віктар Ганчар заявіў аб сваёй адстаўцы. Афіцыйнае пісьмо па гэтай справе было накіравана на імя прэзідэнта РБ 5 снежня з матывіроўкай: „у сувязі з адсутнасцю ў дзейнасці Кабінета Міністраў зразумелых прынцыпаў арганізацыі работы”. На прэс-канферэнцыі Віктар Ганчар сказаў: „Я падтрымоўваў прэзідэнта, калі бачыў, што ён шчыра стараецца нешта зрабіць. Падтрымоўваў, калі бачыў, што ён не ведае, што рабіць. Але не магу падтрымоўваць прэзідэнта, калі ён стаў зброяй у руках групы прайдзісветаў, авантурыстаў і дылетантаў, якія прафінансіравалі яго выбарчую кампанію і, спекулюючы на гэтым, зрабілі яго заложнікам сваёй пазіцыі”. Віцэ-прэм'ер заўважыў, што Кабінет Міністраў павінен быць урадам і адказваць за ўсю выканаўча-распарадчую дзейнасць у дзяржаве. На жаль, Кабінет Міністраў не ўдзельнічаў у прыняцці ніводнага прынцыповай важнасці палітычнага і эканамічнага рашэння. Кабінет Міністраў быў поўнасцю ўстаранёны ад удзелу ў кадравай палітыцы. З Кабінета Міністраў адышлі самыя здольныя людзі, самыя сумленныя кіраўнікі. Адтуль і бярэцца працэс некіруемай дэградацыі і люмпенізацыі дзяржаўнага апарату.

## Візіт у Польшчу

Па запрашэнню старшыні камісіі польскага Сейма па прамысловасці і народнай гаспадарцы Юзэфа Лахоўскага адбыўся рабочы візіт прадстаўнікоў камісіі Вярхоўнага Савета па прамысловасці і паслугах насельніцтву. Бакі прааналізавалі цяперашні стан польска-беларускіх эканамічных сувязей і спрагназавалі іх развіццё на перспектыву. Польскі бок адзначыў станоўчае развіццё партнёрскіх адносін і звярнуў увагу гасцей на невыкананне беларускім бокам шэрагу абавязацельстваў, у прыватнасці па стварэнню беларуска-польскага камерцыйнага банка.

## Саламонавы песні перакладзены

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі „Найвышэйшая песня Саламонава”, што выйшла ў выдавецтве „Мастацкая літаратура”. З сусветна вядомым творам аб каханні, адной з частак Бібліі, пазнаёмілі перакладчык Васіль Сёмуха, мастак Арлен Кашкурэвіч і супрацоўнікі выдавецтва.

## Рыхтуецца дагавор

Кабінет Міністраў РБ прыняў распараджэнне аб заключэнні дагавора паміж урадамі Беларусі і Польшчы аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, навукі і адукацыі. Весці перамовы па заключэнню дагавора ўпаўнаважаны першы намеснік міністра культуры і друку Уладзімір Гілеп.

## У падтрымку беларускай мовы

Ля будынка Менскага гарадскога выканаўчага камітэта праходзіла чарговая акцыя пікетавання. На гэты раз на самае прыметнае ў горадзе месца выйшлі бацькі вучняў многіх менскіх школ і ліцэяў, якія выступілі толькі за беларускамоўную форму навучання сваіх дзяцей.

## Спадарожнікавае тэлебачанне

Беларуская недзяржаўная тэлекампанія „Мінск” пачала вяшчанне праз спадарожнік на Заходнюю Еўропу, еўрапейскую частку СНД, а таксама на поўнач Афрыкі. Адзін з прыярытэтаў, якія ставіць сабе тэлекампанія, паказаць, што Беларусь — не краіна агуркоў і што ёй ёсць чым ганарыцца. Вяшчанне тэлекампаніі „Мінск” працягваецца кожны дзень з 18 да 24 гадзіны па маскоўскім часе.

## Юбілей беларускага кіно

17 снежня 1924 года — дата заснавання Белдзяржкіно. Да гэтай даты былі прымеркаваны некаторыя мерапрыемствы ў Менску. У кінатэатры „Змена” адбыўся паказ дакументальнай стужкі „Быў. Ёсць. Буду” вытворчасці студыі „Летапіс”. Фільм нагадаў жыццё і творчасць Уладзіміра Караткевіча. З экрана пра яго гаварылі сям'я і аднадумцы. Прысутным запомнілася цікавае выступленне вядомага літаратара Адама Мальдзіса.

## Прадпрымальны афіцэр

Афіцэр беларускай арміі шукаў збыт пускавой установкі рэактыўных снарадаў для паражэння бронетэхнікі. Гэты смертаносны агрэгат з поўным камплектам аптычных прыцэлаў і навадных устройстваў прадпрымальны капітан перацягнуў з воінскай часці ва ўласны падвал, разлічваючы прадаць гэта за 2,5 тысячы долараў.

 

## РАДЫЕСТЭТ РАСКРЫВАЕ ТАЯМНІЦЫ ПУШЧЫ

Пра ўрочышча „Замчыска", што ў Белавежскай пушчы, не зберагліся ніякія гістарычныя, ні пацверджаныя дакументамі звесткі. Некаторыя аўтары кніжак аб пушчы згадваюць аб тым, што тут знаходзіўся замак караля Стэфана Баторыя. Адкуль яны гэта ўзялі — невядома! Я таксама ў некалькіх сваіх публікацыях спалучыў гэтае месца з тым жа каралём, спасылаючыся на згаданых аўтараў менавіта. Але ўсё ж мяне турбуе думка, што магчыма я і мае папярэднікі памыляемся. Дык як тут устанавіць праўду, калі няма крыніц? Шмат разоў я адведваў самое ўрочышча, але нават на месцы нічога нельга высветліць. Знаходзіцца тут адно прадўгаваты земны насып, на якім, мабыць, шмат гадоў назад красавалася нейкая абшырная будыніна. Відаць, што сам насып частказа і шматразова перакопваўся. Кажуць, што вялікія валуны, якія тут знаходзіліся яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя, былі звезены ў Белавежу на фундамент для царскага палаца ды іншых значнейшых будынкаў, якія ў той час тут будаваліся.

Мінулым летам у Белавежу прыязджаў радыестэт і заадно біяэнергатэрапеўт з Каліша, Анджэй Цюпэк. Неяк я, паэт Барыс Руско і былы галоўны рэдактар „Нівы" Георгій Валкавыцкі наладзілі з ім сардэчныя зносіны. Сп. Цюпэк адрэкамендаваўся нам як чалавек, які пры дапамозе радыестэзійнага універсальнага маятніка можа ўстанавіць любыя факты, здарэнні. Мне, крыху зарыентаванаму ў справах радыестэзіі, не паказалася гэта нейкай казкай, чымсьці неверагодным. Я неаднойчы сутыкаўся раней з паведамленнямі, якія даказвалі праўдзівасць гэткіх практык. Справа толькі ў тым, наколькі радыестэт спрактыкаваны, у якой ступені авалодаў ён гэтымі здольнасцямі.

Мы пастанавілі пакарыстацца незвычайнымі ўласцівасцямі сп. Цюпка. Ён ахвотна згадзіўся дапамагчы нам у высвятленні некаторых таямніц з гісторыі Белавежскай пушчы. Вядома, пачалі мы з урочышча „Замчыска". Радыестэт, быццам нейкі чарнакніжнік, пачаў запаўняць белыя карты гісторыі. Ён сцвердзіў, што на ўзвышшы стаяла аднапавярховая драўляная будыніна, з цагляным комінам, паводле восі поўнач-поўдзень. Страха была з трыснягу. Жыллёвая плошча займала 86 кв. метраў. Уваход знаходзіўся ад захаду. Будыніну пачалі ставіць у 1439 г. Жыў у ёй бортнік. Аб'ект загарэўся, але пажар патушылі. Затым жыў тут нехта з Літвы. У кожным выпадку Баторыя ў ім... не было! У 1575 г. будыніна ўжо не існавала.

Узнікае пытанне: верыць ва ўсё гэта ці не? Г. Валкавыцкі выдаў сябе, што слухаў усё гэтае як нейкую казку. Што ж, трэба было б знайсці іншага таленавітага радыестэта і паслухаць, што ён скажа. Пацвердзіць устаноўленае А. Цюпкам ці не? На жаль, мы такога чалавека пакуль што не ведаем, а хутчэй не маем з ім ніякіх зносін, але магчыма праз нейкі час некага сцягнем для праверкі.

Вядома, што мы не спыніліся на адным толькі „Замчыску". Чарговым месцам даследванняў стала ўрочышча „Шчэкатова" са шматлікімі курганамі. А. Цюпэк устанавіў, што яны ўзніклі між III і XI ст. (што супадае з меркаваннямі вучоных). Найбольшы курган, названы намі ўмоўна „княжацкім", быў — паводле радыестэта — насыпаны 16 кастрычніка 762 г. У ім пахаваны найстарэйшы з племені, які ўсё ж не быў ягоным правадыром. Ён памёр на 67 годзе жыцця, ненатуральнай смерцю — проста не змог абараніцца ад звера, які заатакаваў яго знянацку.

Затым А. Цюпэк абследаваў адзін з валуноў над рэчкай Лутоўняй, а аб якім мы здагадваліся, што ён служыў для апрацоўкі шкур. Аказалася, аднак, што валун выконваў культавую ролю; на ім спраўляўся абрад ахвярапрынашэння звярыных галоў. Апошняя ахвяра (цяля аленя) была прынесена тут у 783 г. Сам камень з'яўляецца восьмай часткай большага валуна.

Наш госць не мог не наведаць г.зв. месца моцы, што знаходзіцца ў Палацовым парку ў Белавежы. Ён пацвердзіў ягоную вялікую сілу ўздзеяння. А. Цюпэк устанавіў яшчэ, што 26 жніўня 1082 г. пад дубамі, якія тут растуць, былі пахаваны мужчына з канём, забітыя мядзведзіцай, пры якой гадавалася двухгадовае медзведзяня. А далей — у 1920 г., пад дубам з вывай людской галавы (аб чым я абшырна пісаў у „Ніве"), былі пахаваны восем застрэленых у ваколіцы салдат. Гэты яскрава факт пацвярджаюць некаторыя старажылы.

А. Цюпэк паабяцаў нам правесці яшчэ раз даследаванні, тэлерадыестэзійным спосабам, пасля вяртання дамоў, але пакуль што мы не маем ад яго ў гэтай справе ніякай інфармацыі. Думаем, што праз нейкі час калішскі радыестэт зноў загляне ў Белавежу.

**Пётр Байко**




### МОЖА „НІВА" ДАПАМОЖА?

Жыхары Лешукоў, Сушчы, Міхнаўкі, Кардону, Бакавога і Дубровы, каб раніцай даехаць у Гайнаўку, мусяць найперш прайсці каля чатырох кіламетраў у Старое Ляўкова і не спазніцца да аўтобуса ПКС, які ад'язджае адтуль а гадзіне 6.50. Іншага выхаду яны не маюць.

Пісалі яны ў Дырэкцыю аддзела Краёвай дзяржаўнай самаходавай камунікацыі (Dyrekcji Oddziału Krajowej Państwowej Komunikacji Samochodowej) у Бельску-Падляшскім і прасілі накіраваць аўтобус у Лешукі. Хапіла б яго маршрут прадоўжыць на ўсяго тыя 3—4 кіламетры. Дарога-гравейка тут роўная. Сёлета яскраз на гэтым шляху паклалі 1,5 км асфальту. Сюдою кожны дзень ездзяць аўтобусы ПКС з Гайнаўкі ў Беласток цераз Нараўку, Старое Ляўкова, Сушчу, Міхалова і Жэдню.

Варта дадаць, што ў Лешуках канчаецца абсяг абслугоўвання бельскападляшскага Аддзела КПКС. Яго мяжа прабягае па рацэ Нарве, так як і мяжа Нараўчанскай гміны.

Дырэкцыя Аддзела КПКС — як дагэтуль — не намерваецца прыхіліцца да просьбы жыхароў пералічаных вёсак. Маюць яны аднак надзею, што можа заметка ў беларускім тыднёвіку „Ніва" штосьці зменіць. Вядома, пажаданым было б, каб у іх карысць. У люты мароз яшчэ цяжэй будзе ім хадзіць кожную раніцу ў Ляўкова.

**Імёны і прозвішчы жыхароў Лешукоў, якія падпісалі ліст, да ведама рэдакцыі)**

## Жыццё без „засілку"

У **Міхалоўскай гміне** лік беспрацоўных павялічваецца. Зараз не можа знайсці сабе занятку 680 чалавек, у тым ліку 400 мужчын і 280 жанчын. Беспаспяхова шукае сабе працу 590 асоб ва ўзросце ад 18 да 44 гадоў. З-за недахопу рабочых месц не працуе пяцьдзесят сёлетніх выпускнікоў прафесіянальных школ і агульнаадукацыйных ліцэяў. Права на дапамогу па беспрацоўю, так званы „засілак", страціла ўжо 314 чалавек.

У гэтым годзе ў гміне на „засілак" выдадзена каля 1,5 мільярда злотых.

Гмінныя ўлады намагаюцца выдаць бой беспрацоўю. Яны накіравалі, між іншым, 28 асоб да публічных і інтэрвенцыйных работ.

**(яц)**

## У іконах — вялікая моц

Хачу апісаць, што я пачула пра цудоўную моц ікон. Падчас рэвалюцыі ў Расеі адзін гаспадар некрытычна выконваў усё, што загадвалі бальшавікі. Калі яму сказалі парубаць і спаліць іконы, ён парубаў і спаліў. Пасля трох дзён здарылася ў яго бяда. Паставіла жонка варыць яду і раптам штосьці трэснула ды ўсе гаршкі раскалоліся. Потым усё вярнулася да нормы. Спалоханая жанчына пляснула рукамі і крыкнула:

— Ой! Что за чудо такое?

— Это не чудо, чудо ещё будет, — адказала нешта з печы.

Жанчына гэтая была цяжарнай. Калі прыйшло да родаў, нарадзілася дзіця з трыма галовамі. Праз тры дні дзіця памерла. Тады гаспадар зразумеў, што зрабіў страшэнную памылку і выйшаў з бальшавіцкай партыі.

Гаварылі таксама пра нейкага Бору, які вельмі жорстка абыходзіўся з бацюшкамі; трактаваў іх па-зверску.

Калі яго цяжка ранілі, ён моцна цяпрэў. Вядома было, што не выжыве. Ды і смерць не прыходзіла. Папрасіў ён, каб прывялі бацюшку. Хацеў, каб ён яго выспавядаў і прычасціў.

Бацюшка прыйшоў, зрабіў тое што трэба і сказаў:

— Вот видишь, Боря, иногда и священник нужен.

Пасля споведзі Бора памёр.

Адной жанчыне, якая выкінула іконы на сметнік, адняло рукі і ногі. Калі яна захварэла, тады сказала:

— Мусіць мне так сталася таму, што я выкінула іконы.

Падчас вайны адна жанчына намалявала на дошцы Мікалая Цудатворца і малілася да яго. Калі снарад папаў у хату, толькі дошка раскалолася, а хата асталася.

**Аўрора**

## Таварыства прыяцеляў Міхалоўскай зямлі

Нядаўна адбыўся ўстаноўчы сход Таварыства прыяцеляў Міхалоўскай зямлі (Towarzystwo Przyjaciół Ziemi Michałowskiej). Старшынёю Таварыства выбралі **Лешка Носа**, намеснікамі старшыні — **Генрыка Сакалоўскага і Рышарда Варабея**, а сакратаром — **Ванду Гайдучэню**. Функцыю старшыні Рэвізійнай камісіі даверылі **Ніне Зувальскай**.

Таварыства налічвае больш трыццаці чалавек. У плане дзейнасці ТПМЗ, між іншым, выдаць „Манаграфію Міхалоўскай зямлі" і арганізаваць хаця б невялікі рэгіянальны музей. Сядзіба Таварыства — Гмінны цэнтр культуры па вуліцы Беластоцкай 19 у Міхалове.

**(яц)**

## Гарадок пастарэў на некалькі стагоддзяў

У нядзелю 4 снежня адбыўся II Кангрэс Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі. Сапраўды Кангрэс быў гістарычнай сесіяй. Ад звычайных мерапрыемстваў гэтага тыпу адрознівалася яна публікай. Складалі яе жыхары Гарадка, якіх з'явілася ў Гарадоцкім асяродку культуры некалькі дзесяткаў разам з войтам, старшынёй Гміннай рады і святарамі абодвух веравызнанняў.

Кангрэс адкрыў старшыня Таварыства магістр Лявон Тарасэвіч; ён жа Лёнік, толькі ў касцюме і пад гальштукам. Ва ўводным слове старшыня сцвердзіў, што Гарадоцкая зямля, хаця пясчаная і ўбогая, багатая сваёй гісторыяй, аб чым, на жаль, у школе не вучаць. Заклікаў таксама жыхароў гэтай зямлі працаваць дзеля яе дабра: „Такая будзе бацькаўшчына, якую не створаць супольна праваслаўныя і католікі".

Першы з дакладчыкаў, Тамаш Паплаўскі, прадставіў гісторыю зменаў дзяржаўных і адміністрацыйных межаў, у якіх знаходзіўся Гарадок. Змены гэтыя ілюстраваў адмыслова выкананымі картамі.

Другім выступіў д-р Юзаф Марошак. У змястоўным дакладзе накрэсліў панараму вялікага мерапрыемства, якім было заснаванне Хадкевічамі гарадоцкага замка і супрасльскага манастыра ў памежнай пушчы. На думку дакладчыка, мерапрыемства мела ў цэлым ідэйную афарбоўку, звязаную з царкоўнай уніяй. Палемізаваў з ім Уладзімір Гайдук, які адстойваў праваслаўны пункт гледжання.

Д-р Уладзімір Ярмолік прадставіў падарожжы манархаў і дыпламатычныя шляхі ў заходняй частцы Вялікага княства Літоўскага ў XV і на пачатку XVI ст. Даклад выклікаў жывую рэакцыю залы. Прысутныя спрабавалі дапамагчы даследчыку сваімі меркаваннямі наконт старадаўніх шляхоў і распалажэння каралеўскіх станаў (месцаў, дзе спыняўся кароль у час падарожжа) у наваколлі Гарадка (напрыклад, Каралеўскае Стойла).

Сесію закончыў садаклад археолагаў Барбары Чарнэцкай і Галіны Карвоўскай аб выніках даследаванняў Замкавай гары ў сёлетнюю восень. Якраз гэтага даклада чакала з цярплівасцю публіка. І варта было!

Спачатку Б. Чарнэцкая пракаментавала сам працэс раскопкаў, ілюструючы свае выступленне слайдамі. У другой частцы Г. Карвоўская пазнаёміла прысутных з вынікамі сваёй апрацоўкі сабранага матэрыялу (з улікам раней праведзеных раскопкаў). І вось аказалася, што 25% знойдзенай керамікі паходзіць з пераломy XII і XIII стагоддзяў. Падобная кераміка знойдзена ў Ваўкавыску. На жаль, не выяўлена пакуль што ў Гарадку культурнай праслойкі ранняга Сярэднявякоўя. Усё-такі можна прасачыць працягласць пасялення сама найменш з пераломy XIV і XV стагоддзяў. Сапраўды сенсацыйнай знаходкай з'яўляецца аконнага шкла з XV ст., якая не мае сабе роўнай у цэлай Польшчы. Шкло так надзвычайна чыстае, што практычна немагчыма, каб яго рабілі на месцы. Яно праўдападобна прывезенае з Італіі, якая славілася ў той час сваім шклом.

Як не глядзі, Гарадок на Супраслі мусеў быць даволі значным пасяленнем задоўга да Хадкевічаў. На жаль, д-р Марошак не пачакаў да даклада Г. Карвоўскай. А цікава было б пачуць, што ён думае аб выніках археалагічных даследаванняў, якія ў нейкай меры пярэчаць ягонай тэорыі.

Далейшыя даследаванні Замкавай гары абяцаюць яшчэ не адну знаходку. Археолагі ж закранулі толькі частку гарадзішча, ды не самую важную. На будучы год спрабуюць дакапаць да замкавай вежы. Каб толькі знайшліся грошы, бо сёлетняя сумятня з раскопкамі пашкодзіла цудоўна задуманай праграме.

Калі Лявон Тарасэвіч збіраўся закрыць Кангрэс, голас папрасіла Надзея Дудзік, дагэтуль вядомая мне сваім паэтычным талентам. Гэтым разам паказала сваё ўмельства вышываць. Яна адорыла вышыванымі сурветкамі Лёніка (з надпісам: „Кахаем Цябе, Гарадоцкая Зямелька"), войта Яўгена Семенюка (з надпісам „Браткі, любеце і не забывайце роднае мовы", вышыванаю ў браткі і незабудкі) ды кіраўнічцы ГОК Тамары Бурачэўскай.

Старшынчя Таварыства абяцаў новыя сустрэчы. „Я чакаю, чакаю..." (гарадоцкая „Брага" якраз запісвае свае песні ў беластоцкім радыё). Толькі чакаць стварэння падобных гарадоцкаму таварыстваў іншых нашых земель, бо сёй-той вяртаючыся ў Беласток уголас пра гэта думаў.

**Алег Латышонак**



 

# „ЛУПАШКА", „МЛОТ" І ІНШЫЯ

Восенню г.г. выйшла з друку кніжка Тамаша Лабушэўскага і Казімежа Краеўскага „Od Łupaszki" do „Młota". 1944—1949. Materiały źródłowe do dziejów V i VI Brygady Wileńskiej"*/.

Ужо само слова „Лупашка" выклікае ў некаторых беларусаў вобраз кашмару першых пасляваенных гадоў. Тады начное неба часта рассвятлялі зарывы пажараў, а цішыню разрывалі водгукі злавесных выстралаў. Вайна, якая пасля 1944 г. вялася на Беласточчыне, была толькі фрагментам змагання за ўладу ў Польшчы. Прынесла яна шмат ахвяраў сярод мясцовага беларускага насельніцтва. Некаторыя беларусы ад самага пачатку выразна акрэсліліся прыхільнікамі новага палітычнага парадку, сталі на баку аднаго са змагаючыхся. Аднак дзесяткі тысяч мірных жыхароў гэтая вайна закранула зусім выпадкова. Загінулі сотні людзей, якія не мелі і не хацелі мець ніякага дачынення да палітыкі, а часта адзінай іх віной была іх нацыянальнасць і веравызнанне.

Вобраз пасляваеннага падполля ў беларускай свядомасці ёсць аднак надта маналітны і моцна міфалагізаваны. Усіх узброеных, якія наведвалі тады вёскі каля Бельска, Кляшчэляў, Нараўкі, Міхалова, называлі аднолькава „бандамі" і „акаўцамі". Ніхто, зразумела, не прасіў гэтых людзей прад'яўляць дакументы і не імкнуўся разглядаць, якую палітычную плынь яны прадстаўлялі. Асталіся толькі ў памяці факты пажараў, гвалтаў, разбояў, забойстваў і ва ўсім гэтым абвінавачваліся акаўцы. Шмат аднак усялякіх злачынстваў было ўчыненых звычайнымі крыміналістамі, якія не мелі нічога супольнага з палітычным падполлем. Часта звычайныя бандыты прадстаўляліся падчас рабункаў як „войско польске". Іх дзейнасць у сапраўднасці кампраметавала палітычнае падполле і таму некаторыя акаўскія групоўкі прабавалі змагацца з гэтай заліваючай хваляй крымінальнай злачыннасці. Пару разбойнікаў і зладзеяў было нават імі расстраляных (с. 78).

Тым не менш вайна, якая вялася на Беласточчыне ў 1944—1949 гадах мела таксама выразныя прыкметы нацыянальнага канфлікту паміж палякамі і беларусамі. Беларусы ў пераважнай большасці ў такой ці іншай форме прадэманстравалі сваю падтрымку „народнай уладзе". У асноўным яны ў 1944—1947 гадах складалі партыйную арганізацыю ў Беластоцкім і Бельскім паветах. Складалі яны таксама амаль палову саставу міліцыі і службы бяспекі ў ваяводстве. Тады, калі стралялі ў члена партыі ці міліцыянера, найчасцей стралялі ў беларуса. Як вынікае са змешчаных у кніжцы дакументаў, у вачах падполля кожны член партыі быў супрацоўнікам або агентам савецкага НКУС, а ў найлепшым выпадку польскай бяспекі. Гінулі тады 16—17-цігадовыя міліцыянеры і ўсялякія вясковыя рамантыкі, якія імкнуліся збавіць свет і наводзіць грамадскую справядлівасць. З другога боку былі таксама адурманеныя ідэяй змагання маладыя людзі, гатовыя для справы расстраляць кожнага, не пытаючы пра віну ахвяры. Рапарт V Брыгады за час ад 5 красавіка да 5 мая 1945 г. у сапраўднасці з'яўляецца спіскам смяротных экзекуцый, выкананых у вёсках усходняй Беласточчыны.

„8.04.1945 r. Na prośbę ob. Krzyckiego wysłałem 3 patrole, które wykonały wyroki śmierci na 7 osobach we wsi Klukowicze, Tokary, Sutno, Niemirów. Rozstrzelani zostali: 1) Kasperuk Grzegorz, 2) Bondaruk Sidor, 3) Kobojdo Zachar, 4) Tomczuk Bazyl, 5) Wasiluk Aleksy, 6) Pawłuczyk Paweł i 7) Bazyluk" (s. 73). Экзекуцыяй кіраваў Лех Бэйнар, вядомы пасля як эсэіст Павел Ясяніца. Кшыцкі быў жыхаром Бельска і камендантам бельскай акругі АК. У сапраўднасці ён называўся Ян Трусяк. Партызаны ад усялякіх „Лупашкаў" толькі выконвалі загады такіх як Трусяк. Ніякія тлумачэнні, ні плач сям'і, у прысутнасці якой найчасцей расстрэльвалі ахвяры, не мелі ніякага ўплыву на іх лёс.

Такім зместам як вышэйцытаваны фрагмент, запісана каля 10 старонак кніжкі. Гэта паказвае, як зусім невінаваты чалавек мог тады патраціць жыццё толькі таму, што мясцовы даносчык праінфармаваў падпольных камендантаў, што яго сусед ці знаёмы з'яўляецца супрацоўнікам бяспекі. Часта прыватны інтарэс даносчыка вырашаў аб тым, ці хтосьці астаўся ў жывых, ці развітаўся са светам.

Уяўленне пра справядлівасць афіцэраў „Лупашкі" не надта рознілася ад тадышніх таталітарных традыцый, прынесеных сюды нямецкай ці савецкай арміямі.

20 мая 1945 г. „Лупашка" запісаў: „W odwet za spalenie majątku Hieronimowo 1. szwadron spalił skomunizowaną wieś Potoka". Геранімова было спаленае амаль год раней групай савецкіх партызанаў і зусім невядома, што супольнага з гэтым пажарам мела беларуская вёска Патока. Паводле такой логікі можна было спаліць цэлую ўсходнюю Беласточчыну. Падчас пажару вёскі Патока згарэла трое маленькіх дзетак.

Кніжка Лабушэўскага і Краеўскага прадстаўляе аднак толькі тую найбольш памяркоўную плынь польскага падполля пасля 1944 г. На Беласточчыне дзейнічалі таксама групоўкі крайне нацыяналістычнага Нацыянальнага вайсковага задзіночання (Narodowego Związku Wojskowego — НЗВ). Гэтую арганізацыю прадстаўляў кат Заняў і Залешанаў Рамуальд Райс — „Буры". Раней служыў ён у „Лупашкі", але ў верасні 1945 г. адышоў з акаўскага падполля, бо здавалася яно яму надта памяркоўным.

Паводле змешчаных у кніжцы дакументаў адносіны паміж акаўскім падполлем „Свабода і Незалаженасць" („Wolność i Niezawisłość") і НЗВ не былі найлепшыя. Час ад часу паміж групоўкамі гэтых арганізацый вяліся перастрэлкі (с. 85, 259). Акаўцы паводле камендантаў баявых дружынаў НЗВ з Бельшчыны, былі здраднікамі польскай справы і павінны быць абяззброены, а некаторыя нават расстраляны.

У кніжцы, побач створаных падполлем дакументаў, змешчаны таксама дакументы Упраўлення ўнутранай бяспекі (Urzędu Bezpieczeństwa Wewnętrznego). Цікава, што адна і тая самая баявая сутычка бачылася з абодвух бакоў зусім інакш. Напрыклад, пасля бітвы каля Тапілаў 28 мая 1945 г. „Лупашка" запісаў, што забітых было 15 салдат войска польскага і міліцыянераў і толькі адзін з яго брыгады (с. 78). Паводле ўрадавых рапартаў „Лупашка"страціў 37 салдат, а войска і міліцыя мела толькі 5 забітых. Якая была праўда — невядома. Праўдападобна, што ў адным і другім рапарце праўдзівыя былі толькі ўласныя страты.

Змешчаныя ў кніжцы абвінаваўчыя акты афіцэраў Віленскай брыгады АК паказваюць таксама абсурднасць тадышніх судовых працэсаў. Не за смерць невінаватых жыхароў беларускіх вёсак судзіді „Лупашку" і ягоных салдат, але за супрацоўніцтва з „нямецкімі акупантамі і англійскімі імперыялістамі".

Найгоршай часткай кніжкі з'яўляюцца каментарыі і паясненні аўтараў. Згодна з духам часу — паводле Лабушэўскага і Краеўскага — усе, што ў саракавых гадах апынуліся на баку г.зв. „народнай улады", прадстаўлялі сабой свет здрады і подласці. Яшчэ нядаўна „выдатныя навуковыя аўтарытэты" пісалі штосьці аб „utrwalaniu władzy ludowej". Сёння пішуць так сама і тое самае, толькі што ўчарашнія „бандыты" ў іх „навуковай" творчасці пераўтварыліся ў „нацыянальных герояў", а міліцыянеры і салдаты Корпуса ўнутранай бяспекі — у „pachołków Moskwy". Прастытуцыя ў свеце навукі ёсць таксама страшная, як і ў свеце палітыкі.

**Яўген Мірановіч**

---

*/ T. Łabuszewski, K. Krajewski: *Od „Łupaszki" do „Młota". 1944—1949. Materiały źródłowe do dziejów V i VI Brygady Wileńskiej,* Warszawa 1994, Wyd. „Wolumen", s.s. 332.

# Пагаварылі

У аўторак, 6 снежня, адбылася сустрэча прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў Беласточчыны з віцэ-міністрам культуры і мастацтва Міхалам Ягелам. У ролі гаспадара сустрэчы выступіў беластоцкі віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі. Апрача прадстаўнікоў дзяржаўнай адміністрацыі і нацыянальных меншасцяў у сустрэчы ўдзельнічалі паслы Сяргей Плева (СЛД) і Артур Смулка (Унія працы).

Міністр Ягела ўжо на пачатку свайго выступлення заявіў, што сустрэча мела б больш дзелавы характар, калі б не крытыка ўрадавай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасцяў у сродках масавай інфармацыі. Спадар міністр недвухсэнсава меў на ўвазе артыкул, які надоечы надрукавала „Газета Выборча". Ужо сам загаловак артыкула Владзімежа Каліцкага „Czystka etniczna" не дазваляе сумнявацца, што яго аўтар думае пра ўрадавую палітыку ў той галіне. У сваёй крытыцы В. Каліцкі спасылаецца на выказванні Багумілы Бэрдыхоўскай, былога кіраўніка Бюро па справах нацыянальных і этнічных меншасцяў пры Міністэрстве культуры і мастацтва. Спадарыня Бэрдыхоўская нядаўна дэманстратыўна падалася ў адстаўку, а з ёю частка яе супрацоўнікаў, у тым ліку Павел Казанэцкі, які займаўся беларускімі справамі. Новым кіраўніком назначаны быў Ежы Бісяк (якога міністр Ягела прадставіў на сустрэчы), колішні сакратар партарганізацыі ў Міністэрстве.

Міністр Ягела стараўся абвергнуць крытыку з боку сродкаў масавай інфармацыі (Б. Бэрдыхоўская выступала таксама ў тэлебачанні ў галоўным выпуску „Вядомосці"). Сцвердзіў, што дзяржава не трактуе нацыянальных меншасцяў як заложнікаў і дапамагае ім па меры магчымасцей.

Пасля выступлення міністра размова ўсё-такі зышла на грошы. Беларускіх дзеячоў як быццам толькі і тое цікавіла. Па чарзе пыталіся пра грошы на дзейнасць для сваіх арганізацыяў: Сакрат Яновіч („Белавежа"), Антон Мірановіч (Беларускае гістарычнае таварыства), Янка Сычэўскі (БГКТ), Яўген Чыквін („Przegląd Prawosławny"), Канстанін Майсеня (Камітэт пабудовы музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы) ды Мікалай Бушко (Фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы). Міністр абяцаў усім падтрымку, хаця грошай пакуль што няма, аб чым паінфармаваў прысутных зараз на пачатку. Тым не менш усе яму дзякавалі.

Пра грошы пытаўся таксама (хаця не дзякаваў) Яўген Вапа — старшыня Беларускага саюза (для БАСу) і прадстаўнік Звязу беларускай моладзі Юрка Асеннік. Той не меў за што дзякаваць, бо ЗБМу грошай не абяцалі.

У сувязі з тым Ю. Асеннік заявіў, што грошы прызначаюцца толькі на мерапрыемствы для пенсіянераў, чым ашарашыў усіх прысутных. Усё-такі лепш гучалі колішнія заявы ЗБМ аб тым, што ніякіх грошай ад дзяржавы гэтая арганізацыя не патрабуе.

Ніхто не спрабаваў у сітуацыі, калі пра дзелавую сустрэчу не магло быць размовы, дыскутаваць пра прынцыпы. Відавочна гатовы быў да таго толькі пасол Артур Смулка. Разгубленасць беларускіх прадстаўнікоў была настолькі вялікая, што ніводзін не пракаментаваў выступлення Яўгена Чыквіна, які дакараў Б. Бэрдыхоўскую ў тым, што яна сваёй палітыкай выклікала раскол у беларускім асяроддзі. Няўжо ж увесь гэты палітычны мардабой між намі беларусамі толькі праз жанчыну? „My rządzim światem, a nami kobiety"?

Рэдактар Яўген Чыквін выступіў таксама з тэзісам, што дзяржава павінна цікавіцца перш за ўсё падтрымкай праваслаўнай меншасці, бо беларуская — толькі яе частка. У сваіх высновах Яўген Чыквін заблытаўся да такой ступені, што даў Г. Рыкоўскаму нагоду да рытарычнага пытання, ці для яго важнейшыя праваслаўныя святы за Дзень Незалежнасці Польшчы. Цяжкі лёс праваслаўных беларусаў, але і праваслаўным палякам няма чаго зайздросціць.

Міністр Ягела сцвердзіў, што дзяржава рэлігійную дзейнасць падтрымоўваць не можа. Усё-такі абяцаў фінансавую падтрымку для „Przeglądu Prawosławnego" за яго заслугі для беларускай і ўкраінскай культур. Рэдактар Я. Чыквін падзякаваў.

У агульнасці спадар міністр без высілку дасягнуў мэту, з якой прыехаў у Беласток. Беларускі актыў адобрыў цяперашнюю палітыку дзяржаўных улад у меншасных справах.

Сустрэча паказала памеры інтэлектуальна-арганізацыйнага крызісу ў беларускім асяроддзі. Пасля гадоў выспявання беларускай палітычнай думкі застаўся па ёй толькі ўспамін.

Бо справа тут не ў адносінах міністра Ягелы да нацменаў, ці ў палітычным мінулым Ежы Бісяка. Я ўпэўнены, што яны хацелі б мець да падзелу два, тры, а то і дзесяць разоў болей грошай, чымся дзяліць ім даводзіцца. Чым больш дзяржаўных грошай дзеліш, тым ты важнейшы — такі закон бюракратыі. Справа ў тым, што мы людзі нічые. Нават міністр Ягела не пазбег агаворкі, сцвярджаючы „Polityka wobec was nie będzie nigdy zależała od tego, jak traktowani są Polacy w waszych krajach" („Gazeta w Białymstoku" nr 284). Дык дзе ж нарэшце наш край? Там ці тут? А што будзе, калі Польшча ўступіць у НАТО і апынемся на мяжы між двумя мілітарнымі блокамі? Нават думаць страшна...

Няўжо ж адзінай канструктыўнай прапановай застаецца сустрэча над вырабам, якім славіцца гарадоцкае наваколле, што жартам прапанаваў усім беларусам пасол Плева?

Не так даўно малодшыя з нас падпявалі ў гэтым жа Гарадку Віктару Шалкевічу, калі той спяваў „Дзякуй, што вашая лыжка абцёрла нам рот". І вось мы ўжо гатовы, у след за „бэгэкатоўскім" пакаленнем, дзякаваць. Дзеля „ратавання", „захавання" і г.д. высокіх мэтаў, вядома. Мне ўсё-такі здаецца, што ў сітуацыі, калі няма за што дзякаваць, а невядома, чаго мы сапраўды хочам, лепш проста нічога не гаварыць.

Мова — серабро, а маўчанне — золата, як навучалі антычныя рымляне.

**Алег Латышонак**

# Працаваць у вясковай школе

Як у кожнай малой школе, у Красным Сяле выступае праблема з г.зв. спалучанымі ўрокамі. Каб гэта як найменш дакучала, план заняткаў так складзены, што частка ўрокаў па матэматыцы, фізіцы, хіміі, польскай ці беларускай мовах мусіць весціся аддзельна, толькі ў адным класе. Раней беларуская мова навучалася выключна ў спалучаных групах, а ў гэтым годзе толькі адзін такі ўрок у тыдзень. Два астатнія — асобна кожны клас. І гэты прынцып захоўваецца строга, нават у пятым класе, дзе ўсяго тры вучні, а на беларускую мову ходзіць толькі адзін хлопец — Марэк Голуб з Дыдуль.

*— На ўроках, з Маркам мы не толькі чытаем, ці пазнаем граматыку,* — расказвае **настаўніца беларускай мовы Аліна Загон,** — *але і гаворым пра блізкую ваколіцу, тлумачым, скуль узяліся назвы мясцовасцяў. Гаворым таксама пра тое, як адзначаюцца ў нас святы, якія абрады яшчэ захаваліся, а якія ўжо толькі ў памяці старэйшых людзей. Вучні наогул любяць развучваць сваё блізкае, гісторыю гэтай зямлі, народную абраднасць. Калі знаёміла я іх з творчасцю Янкі Купалы, дык гаварылі мы пра Купалле, пра ўплыў гэтага свята на літаратурны псеўданім паэта. Цяпер надыходзяць Каляды, а потым Шчодры вечар — Гагатуха, як у нас кажуць — дык некалькі ўрокаў сарганізуем вакол гэтай тэмы. Малодшыя дзеці любяць, каб ім казкі чытаць, а ў другім класе, то нічога больш не рабілі б, толькі на кожным уроку пазнавалі б новую літарку. Аж шкада, што алфавіт такі кароткі.*


*Настаўніца беларускай мовы Аліна Загон.*

Аліна Загон у Красным Сяле толькі з верасня. Гэта наогул яе першая праца.

*— Калі пачынаць працу, то толькі на вёсцы,* — кажа яна, — *меншыя класы, спакайнейшыя вучні, лягчэй наладзіць з імі непасрэдны кантакт, утрымаць парадак. У нас беларускую мову вывучае 28 дзяцей. Гэта столькі, колькі вучняў у адным класе гарадской школы. Найбольшая праблема з навуковымі дапаможнікамі. Я дык маю падручнікі, але дзецям іх не хапае. Прывожу ксеракопіі. Апрача падручнікаў, карыстаемся „Вясёлкай”, у мяне ёсць некалькі нумароў „Бярозкі” і з „Нівы” можна сёе-тое выбраць.*


*Пяцікласнік Міхал Голуб на ўрокі беларускай мовы ходзіць сам адзін.*

*— У нас мяшанае асяроддзе,* — падключаецца да размовы **дырэктар Ніна Масціцкая,** — *дык можна спаткацца з такой фальшывай думкай, што як католік, то не павінен хадзіць на беларускую мову. Я пытаюся — чаму? Ці праз гэта ўжо такое дзіця „рускім” стане, ці што? А бываюць і зусім абсурдныя аргументы. Я сама чула, як адна маці гаварыла сыну: „Марыюшку, ты не вучыся беларускай мове, бо адзін у Рыбалах вучыўся, то здурэў”. Вось табе і на! Нядаўна я аднак выканала такую працу — перагледзела біяграфіі нашых выпускнікоў на працягу дваццаці пару гадоў. Усе тыя, што ў нас вывучалі беларускую мову і потым пайшлі ў беларускі ліцэй, то як мінімум маюць матуру. А большасць з іх вышэйшыя школы пакончала. Дык што, беларуская мова ім у чымсьці перашкодзіла?*

Пані дырэктар абводзіць мяне па школе-„тысячагодцы”, г.зн. збудаванай у 1966 годзе, на заклік: „Tysiąc szkół na tysiąclecie Państwa Polskiego”. У час перапынку на калідор высыпаецца яшчэ ладная грамада.

*— Хаця ў нас усяго 61 дзіця вучыцца,* — расказвае дырэктар, — *то ў школе заўсёды поўна. Дзеці з Пасекі, асабліва зімою, прыязджаюць вельмі рана, з дастаўшчыкамі малака. А потым увесь час нехта ёсць. Раней дзяцей з Пасекі (5 км) і з Дыдуль (2 км) давозіў ПГР Дыдулі, цяпер дабіраюцца яны самастойна. Ды і дзетак тых усё меншае, з Пасекі — васьмёра на ўсю школу. У Дыдулях наймалодшае дзіця ходзіць у нулявы аддзел. Лепш сітуацыя выглядае ў тамашнім ПГРы, там нават у лютым мае адно нарадзіцца.*

Школа ў Красным Сяле — адна з шасці ў Боцькаўскай гміне. Большасць настаўнікаў даязджае сюды з Бельска. Стараюцца, каб школа, хаця і ў нялёгкіх умовах, жыла як найбольш нармальным жыццём. Вучні на перапынку гуляюць у настольны тэніс. Групка збіраецца вакол камп'ютэра.

На шчасце, войт падкінуў 20 мільёнаў злотых, за якія купілі вугаль. Мароз у бліжэйшыя месяцы не страшны.

**Мікола Ваўранюк**

# Старшыня і дырэктар

З пачаткам 1994 года школа ў Нараўцы перайшла пад гміннае самаўрадавае кіраванне. Сітуацыя змянілася, няма даўгоў, няма цяжкасцей аплаціць бягучыя патрэбы. У школу і далей прыходзяць часопісы, сярод якіх ёсць і „Ніва”. Узнавілася дзейнасць пазаўрочных гурткоў зацікаўлення. Пасля заняткаў можна займацца спортам, удзельнічаць у танцавальным, харавым, пластычным ці фотааматарскім гуртках.

Вучні пад кірункам Ядвігі Карпюк набіраюць школьную газету „Echo Szkoły”. У Нараўцы працуе 28 настаўнікаў. Палова з іх мае поўную вышэйшую адукацыю. Няма нechваліфікаваных працаўнікоў. Многія з іх дзейнічаюць як радныя, а сам дырэктар, Яўген Валкавыцкі, старшынюе Гміннай радзе. Магчыма, што дзякуючы гэтаму, школа і гміна жывуць у суладдзі.

— Пераход пад гмінны самаўрад для нас вельмі карысны. Перш за ўсё рушыла пабудова новай школы. Прадугледжана 4 этапы пабудовы, тры з іх ужо пачаліся. Завяршэнне плануецца на 1996 год. Ёсць шанц, што гэта будзе рэальны тэрмін адкрыцця будынка. Войт, Мікалай Павільч, робіць усё, каб знайсці грошы. Гміна перадала ўжо чатыры мільярды злотых, два мільярды дакінула Кураторыя асветы. Кошт пабудовы ў тры разы большы, — сказаў дырэктар Яўген Валкавыцкі.

Сёння нараўчанская школа працуе ў пяці памяшканнях. Навучаецца ў ёй 370 дзяцей. 130 школьнікаў з наваколля — Масева, Альхоўкі, Скупава, Плянты, Міклашэва — давозяць на сваім транспарце.

Сярод вучняў дзве трацiны — праваслаўныя. Аднак беларускую мову вывучаюць нямногія. Яшчэ нядаўна роднай мове вучыліся 62 асобы. Дзякуючы сустрэчы, якую правёў тут дырэктар гайнаўскага Беларускага ліцэя Яўген Сачко, лік вучняў павялічыўся на 20. Настаўніца беларускай мовы Ганна Кандрацюк (прыпадковае супадзенне імя і прозвішча) вымушана папаўняць адукацыю. Апрача таго, што яна выпускніца беларускай і рускай філалогій, штудзіруе яшчэ паланістыку. Зараз навучае таксама і польскай мове.

— Самая вялікая цяжкасць — гэта тое, што вучні на беларускую мову могуць прыходзіць на працягу цэлага года. Выглядае так, што адных трэба знаёміць з праграмай, іншых вучыць алфавіту, — сказала настаўніца.

Калі мы разам завіталі ў адзін малодшы клас і гутарылі з тымі, што вучацца беларускай мове (зразумела, гаварылі мы па-беларуску), аднагодкі, якія „не маюць патрэбы вучыцца непрактычных урокаў” смяяліся са слова „здымкі” ды іншых. Для нармальна думаючага чалавека смешна было б смяяцца са слова „zdjęcie”. На жаль, у такіх умовах працуюць настаўнікі беларускай мовы.

— Не падскочыш занадта, — прызналася мне беларусістка, дарэчы, звязаная ў студэнцкія гады з БАСам. Усё-такі робіць, што можа. Апошнім часам праводзіла прадметны конкурс. Дзякуючы кантактам з настаўнікамі гайнаўскага ліцэя, прывозіць адтуль дапаможнікі, напрыклад, відэакасеты з літаратурнай класікай.


*Ганна Кандрацюк — настаўніца беларускай мовы ў Нараўцы.*

Здавалася б, што ў школе створаны ўмовы для развіцця роднай мовы. Сам дырэктар, Яўген Валкавыцкі, з лёгкасцю карыстаецца беларускай мовай. З'яўляецца таксама чытачом „Нівы”. Мае ён аднак надзею, што занепад роднай мовы спыніцца. Многія вучні, асабліва з навакольных вёсак, між сабой гутараць яшчэ па-беларуску. Таксама і ў самой Нараўцы афіцыйнай вулічнай і далей застаецца „простая мова”.

Самае важнае тое, што дэмаграфічныя справы тут не выглядаюць трагічна. У будучым годзе ў школу прыйдзе звыш 30 новых вучняў. У Нараўцы пабудавалі тры блёкі. У іх пасяліліся маладыя сем'і.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**


*Яўген Валкавыцкі — дырэктар школы ў Нараўцы.*




**„ДЗЕЯЧЫ-ДЗЯКАВІЧЫ”**

Кожнай заўдзячваюць уладзе,
Нават хаця б далася ў знакі,
Пяюць на з'ездзе, на нарадзе
Сваё падданіцкае: „дзякуй!”

Хоць атрымаў намнога меней
Сваёй павіннасці ўсялякай,
Заўсёды поўны захаплення:
„Дзякуй вам, дарагія, дзякуй!”

Там, у двухмоўным асяроддзі,
Што памагаюць стаць палякам,
Пры кожнай выскажуць нагодзе
Нізкапаклонніцкае: „дзякуй!”

Яны ж тут у сваёй старонцы,
Ды толькі пад суседзяў знакам.
За гэта, што жывуць пад сонцам,
Суседзям паўтараюць: „дзякуй!”

**Віктар Швед**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## У АРЭШКАВЕ

Нядаўна я наведала школу ў Арэшкаве. Спадабалася мне тое, што вучні на перапынках размаўляюць на палескай гаворцы. Таксама, амаль усе, ходзяць на беларускую мову. Многія думаюць паступаць у гайнаўскі Белліцэй.

Прыемна было пазнаёміцца з сімпатычнымі пяцікласнікамі. Яны ўмеюць ужо крышку пісаць і гаварыць на літаратурнай мове. Можа напішуць у „Зорку"?

У Арэшкаве здольныя вучні. Прымаюць яны ўдзел у дэкламатарскіх конкурсах, складаюць цікавыя насценгазеты, цікавяцца экалогіяй. Восенню прыбіралі навакольны лес. Трэба было ачысціць яго з паперын і пластмасавых бутэлек, якія пакінулі нікчэмнікі. Арэшкава якраз і распаложана на ўскраіне Белавежскай пушчы. Цешыць усіх, што ў Арэшкаве расце моладзь, якой не абыякавы лёс слаўнай пушчы.

**Г. Кандрацюк**
**Фота аўтара**



*Бася і Аля Галёнка — пяцікласніцы з Арэшкава.*

## Летні ўспамін з Кіпра

Пра Кіпр — востраў на Міжземным моры, некаторыя з вас ужо чулі. Выспа гэтая, велічынёю больш-менш нашай Беласточчыны, заселена у большасці грэкамі. Яны на працягу тысячагоддзяў стварылі тут вялікую культуру, якою ганарацца перад усім светам. На Кіпры знаходзіцца звыш 500 праваслаўных храмаў і каля 20 манастыроў (на жаль, частка з іх разбурана туркамі на акупаванай імі з 1974 года тэрыторыі).

Нікасія (Леўкасія) — гэта сталіца Кіпра. Адсюль менавіта паходзяць прадстаўленыя на здымку хлопцы. Сам здымак зроблены быў у праваслаўным дзіцячым летніку (катаскіносі) ў кіпрыйскіх гарах Траодас. Штогод у ліпені адпачываюць тут хлопцы, а ў жніўні — дзяўчаты (праваслаўныя летнікі на Кіпры і наогул у Грэцыі аднародныя). Сёлета ў ліпені пашчасціла быць і мне на такім летніку. Духоўна і цялесна адпачывала тут звыш 80-ці хлопцаў з Нікасіі. Духоўным апекуном і душою ўсяго летніка быў а. Георгій Антонію. Уся група была падзелена на восем атрадаў. Лідэрам атрада пяці-шасцікласнікаў (на здымку) быў Хараlampас Хараlampоўс (у сярэдзіне), а дапамагалі яму сябры з Беласточчыны: Алік Васілюк і аўтар гэтых радкоў.



Кіпрыйскія хлопцы хацелі б пазнаёміцца са сваімі аднагодкамі з Беласточчыны (ім, дарэчы, вельмі спадабалася наша песня „Беласточчына"). Перадаюць яны свае адрасы і просяць пісаць ім, найлепш, вядома на грэцкай мове або па-англійску.

Тым, хто вучыцца англійскай мове, будзе нагода практычна ёю пакарыстацца.

Жадаю працяглых знаёмстваў і сяброўстваў.

**Мікола Сахарэвіч**

## Пазнаёмімся

1. Christodoulos Christodulidis, Agiu Nikolau 33, Pal/sas, Cyprus.
2. Petros Agafangelou, Charalampous Sawwa, 50, Agios AFANASIS, Cyprus.
3. Antonis Sikopetrisis, Wuniu 8, Leukosia, Cyprus.
4. Andreas Papandreu, Afanasiu Diakou 2 A, Pal/sas, Cyprus.
5. Giorgos Orfanon, Chrisalinikissis 7, Leukosia, Cyprus.
6. Evangelos Christodoulu, Ofelu 2, Kaimakli, Cyprus.
7. Petros Evangelou, Kato Polemidia 3A, Souru Mela, Cyprus.
8. Aleksandros Pissurios, Kandaras 9, Kaimakli, Cyprus.
9. Kostandinos Dimitriu, Listomu 2, Stravolos Leukosia, Cyprus.
10. Andreas Paulu, Agiu Nikolau 11, Pal/sas, Cyprus.
11. Christodoulos Chodzichristofi, Gianni Frideriku 14, Cyprus.

## Вясёлы куточак

— Мірка, чаму ў цябе заўсёды ў дыктанце тыя ж памылкі?

— Я рашыла ніколі не мяняць сваіх поглядаў!

* * *

Дарэк часта прыходзіў на ўрокі з брудымі вушамі. Вядома, настаўніцы гэта не падабалася. Аднойчы настрашыла вучняў: калі ў каго-небудзь будуць брудныя вушы і шыя, паставіць таго вучня на ўвесь урок на сярэдзіну залы.

Назаўтра Дарэк адразу заявіў:

— Можаце правяраць сёння чыстасць нашых вушэй. Я сёння памыўся.

* * *

— Скажы, Ігар, што ты ведаеш пра чляністаногіх.

— Яны такія стварэнні, што з'яўляюцца членамі нейкага зборышча звяроў, і ў усіх іх ёсць ногі!

* * *

— Скажыце, дзеці, — пытае сваіх вучняў настаўніца прыродазнаўства, — як вы думаеце: адкуль на свеце бярэцца вада?

— Ну, вядома: з крана!

* * *

На ўроку настаўніца просіць вучняў расказаць пра свае сем'і.

— Я адзін у маіх бацькоў, — кажа Лукаш.

— Пэўна, табе сумна аднаму.

— Не вельмі. Я нават рады, што толькі адзін. Падумайце: трэба было б усім дзяліцца з братам ці сястрою. А хто думае інакш?

**Ірэна Салавей**




### Дарагая „Зорка"!

Пішуць Табе вучні Vб класа Пачатковай школы ў Орлі. Мы вельмі шчаслівыя, што нашу школу наведаў дарагі нам госць, паэт Віктар Швед.

У час сустрэчы ён расказваў нам не толькі пра сваю творчасць. Цікава было паслухаць пра яго вучобу ў нашай мясцовасці, бо ў дзяцінстве ён таксама вучыўся ў Орлі. Тады была яшчэ даўняя, старая школа. Паэт чытаў нам свае вершы. На заканчэнне падпісваў свае зборнікі „Вясёлка" і „Родны схоў".

А гэта нашыя вершы са школьнай насценгазеты.

### Бярозы

Над берагам лесу
бярозы бялеюць,
калі вецер павее
здаецца танцуюць,
простыя,
смутныя,
высокія.

**Віктар Каляда, кл. IIIб**

### Вароты лета замыкае восень

Восень часта дажджлівая,
А часам бывае цёплая.
Люблю лес, бо ў лесе як у раі
А я там часта гуляю.

Чаму, восень, плачаш?
Птушка, чаму не шчабечаш?
Восень заспявала пра майскае сонца,
А я — пра вясковае аконца.

Час лета ахоплены шэранню;
Далей твой шлях прыкрыты
птушынным крылом,
Ён канчыцца з тваім вяртаннем,
Калі прыйдзе зіма з траскучым
марозам.

Восень зноў да лугоў вернецца
Так як птушка ў гнёзды спяшаецца.
Восень слаўная года пара
Для мяне яна як добры сябра.

**Паўліна Сідорская, кл. VII**

### Мышка

Села кошка на парожку,
спаці захацела крышку.
На печ яна ўлезла,
ды на мышку налезла.

Кошка на мышку паглядзела
і яе з'есці захацела.
Толькі мышка спрытненька,
дык пад печку хуценька.

**Бэата Уткін, кл. VIIIб**

### Сарока

Ой, сарока белабока,
ты лятаеш недалёка.
Ой чаго ты ўсё крычыш?
Ні хвілінкі не маўчыш?
Час дарэмна губіш,
бо пляткарыць любіш.

### Зайчык

Ранкам зайчык белячок
з-пад куста на сцежку — скок!
Толькі каля дрэў прабег,
бачыць — снег, навокал, снег!
Засмяяўся белячок:
— Ой, цяпер мяне ваўчок
не дагледзіць пад кустом.

**Януш Бобік, кл. VIIIб**

**Ад рэдакцыі:** Дарагія пяцікласнікі, шаноўная настаўніца!

„Зорка" дзякуе за мілыя пажаданні і прыгожы, цёплы ліст. Буду з нецярплівасцю спадзявацца ад вас пісьмаў. А вершы вашых сяброў вельмі мне спадабаліся.

# Менскія спевакі-барды


*Алесь Камоцкі і Воўка Кандрыкінскі.*

29 і 30 кастрычніка г.г. Звяз беларускай моладзі (ЗБМ) арганізаваў I Фестываль аўтарскай песні „Бардаўская восень". На сцэне Бельскага дома культуры выступілі самыя папулярныя спевакі з Беларусі, а таксама „Белы сон" і Крыстафор Сяськевіч з Беластока. Сёння пазнаёмімся з бардамі з-за мяжы.

**Воўка Кандрыкінскі**, вядомы таксама сярод сяброў як „Воўк", заваяваў узнагароду бацькоўскага камітэта бельскай „тройкі". Сёлета праспяваў ён чатыры новыя песні, а адна з іх была напісана пад уплывам уражанняў з Беласточчыны. Воўка, едучы аднойчы ў Орлю, упершыню сустрэў чорнага бусла. Гэтае здарэнне паслужыла матывам да песні пра наш рэгіён. Упершыню выступіў ён у нас на „Басовішчы". Ягоныя песні часта гучаць у беларускіх радыёперадачах.

У Воўкі асаблівы голас. Мілагучнае „хрыпенне" нагадвае якраз Уладзіміра Высоцкага і не выпадкова ён часта спявае якраз на манер гэтага песняра. Кандрыкінскі па прафесіі музыкант. Шкада, што ў Беларусі няма спрыяльных умоў для поўнага развіцця яго таленту.

— Там ведаюць дзве—тры мае песні, а так замоўчваюць. У нас намнога лягчэй быць альхімікам, прэзідэнтам, генералам, чым бардам, — прызнаўся Воўка.

Апрача таго, што ён піша, спявае, іграе на гітары, любіць таксама гуляць у косці і шахматы. Цэніць сяброўскае жыццё. На Беласточчыне адчувае сябе нармальна. Нашай моладзі хацеў бы сказаць, каб не саромелася яна сваіх учынкаў і каб заўсёды ставала ёй гонару.

**Алесь Камоцкі** перш за ўсё спявае лірыку. Многія лічаць яго „менскім Данчыкам". Яго песні ад першага „Басовішча" набылі вялікую папулярнасць.

На жаль, ён, як і Воўка, наракае на складанасці. Апошнім часам нават перастаў спяваць.

— Для Беласточчыны я зрабіў выключэнне, кінуў усё і прыехаў, — сказаў бард.

Зараз ён займаецца будаваннем дамоў. Не наракае. Кажа, што кожную працу можна выконваць „з душой". На фестываль прыехаў і таму, што дарагое яму сяброўства з галоўнымі арганізатарамі: Багданам Сіманенкам і Маркам Заброцкім.

— Для іх я буду ездзіць і ездзіць! — закончыў спявак.

Добрае ўражанне выклікала песня „Вільня", якую праспяваў дэбютант **Зміцер Бартосік**. Зараз працуе ён журналістам у турыстычна-краязнаўчым часопісе. Пра ўражанні не хацеў гаварыць.

— Я першыя суткі па-за межамі Савецкага Саюза, — адказваў на кожнае запытанне бард-аматар.

**Г. К.**
**Фота Ганны Кандрацюк**

*Песня Алеся Камоцкага*

**Каханне маё**

О, каханне маё бясконцае,
Не ўцякай ад мяне, пашкадуй,
За табой, як за светлым сонцам,
Па штодзённай дрыгве іду.
На, на...
Чарада нада мной жураўліная,
Пада мною балоты, віры.
Журавінамі, журавінамі
Кроў мая на куп'і гарыць.
На, на ...
На шляху толькі чорная лотаць,
А за мной ад маёй крыві
Утрапёна квітнеюць балоты
Золкай песні, пярэснай любві.
На, на ...
Кроў сплывае, няма супакою,
І калі ўпаду нежывы
Красаванне кветак жывое
Застанецца на месцы дрыгвы.
На, на ...


*Зміцер Бартосік.*

# ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ

Сярод жыхароў Дубічаў-Царкоўных (даўным-даўно Жарывэц) усё не забываецца легенда пра першую царкву, якая тут існавала ад пачатку заснавання вёскі. Пацвярджае гэта прывілея караля Зыгмунта Аўгуста для спомненага храма ад 1553 года.

Старэйшым жыхарам з вусных пераказаў вядома, што першапачаткова царква стаяла на ўзгорку каля ўрочышча Бахматы. Непадалёку плыла рачулка Арлянка ды праходзіў тракт з Бельска ў Камянец цераз Орлю і Жарывэц. Таму па сённяшні дзень дарогу называюць Камянецкім гасцінцам. Так вось храм знаходзіўся між Дубічамі і Чохамі (сёння Чэхі-Арлянскія).

Паводле легенды царква святых Пятра і Паўла „ўвайшла ў зямлю". З іншага расказу можна даведацца, што храм згарэў. Падчас пажару несеная ветрам ікона ўпала ў самым канцы вёскі Дубічы, пры дарозе ў Грабавец. У гэтым месцы прыхаджане пабудавалі царкву, у якой асабліва шанавалася ікона Пакрова Божай Маці.

У 1890 годзе і пазней ікона знаходзілася за алтаром, у пазалочаным ківоце. У 1910 годзе пабудавалі званіцу і паркан. На жаль, падчас II сусветнай вайны, у 1941 годзе царква згарэла.

* * *

Там дзе сыходзяцца межы палёў і сенажацяў сялян з Рыбалаў, Паўлаў і Міневічаў, на высокім лясістым пагорку знаходзіцца ўрочышча Святая гара. Калісь на гэтым узгорку стаяла царква, у якой маліліся жыхары навакольных вёсак і прысёлкаў. Першапачаткова было гэта насельніцтва набожнае і пакорлівае.

З цягам часу людзі перамяніліся і перасталі хадзіць у царкву. Бывала, што ў храм ішлі толькі выпадкова, з нагоды штогодніх вялікіх святаў. Пакрысе забывалі Бога, усё менш маліліся, а то і пачалі весці распусны спосаб жыцця. З часам царква апусцела.

І тады ўсемагутны Бог пастанавіў пакараць няверных людзей. У першы дзень Вялікадня, калі на набажэнстве сабралася даволі многа народу, неспадзявана царква рухнула пад зямлю.

З таго часу кожны год апоўначы ў першы дзень Вялікадня, калі ў царкве ў Рыбалах звоняць ва ўсе званы, кожны, хто прыкладзе вуха да зямлі на самай вяршыні Святой гары, пачуе плач ды стогн бязбожнікаў, якія праваліліся пад зямлю разам з храмамі.

*Сабраў і апрацаваў*
**Янка Целушэцкі**

# Як я сына ў сярэднюю школу кіраваў

Заходзіць да нас аднойчы, ведаеце, Нінка Круціха. Кума мая, значыцца.

— Ну і што вы думаеце з сынам далей рабіць? — пытаецца.

А Юрка наш і ейная Марыся ў гэтым годзе якраз восьмы клас канчаюць.

— Бо я, — кажа, — сваю вырашыла ў гандлёвы тэхнікум накіраваць. Сяброўка мая там прыбіральшчыцай працуе, добрае слова замовіць. Ну і наралі мне адпаведнага чалавека. Ён тут адной знаёмай з Пасынак у мінулым годзе дачку ўстроіць дапамагаў. Дамо пару тысяч, і ўсё будзе добра...

— А гэта — навошта?

— А што вы? Не з гэтага свету, ці што? Жыцця не ведаеце? Дзе вы бачылі, каб някормленая кабыла воз пацягнула? Сёння без добрага знаёмства ў сярэднюю школу не ўлезіці! На кожнае месца — пару ахвотных!

— Ну і што? Юрка наш — выдатнік, дык экзамены здасць.

— Экзамены то ён можа і здасць, чаму не, хлопец таленавіты. Але не прымуць яго ў школу па прычыне браку месцаў, і ўсё. Цяпер у іх усюды адгаворка такая.

Адным словам — напалохала нас баба. Юрка было хацеў у беларускі ліцэй, што ў Бельску, старацца. А скуль там тыя „знаёмствы" возьмеш? Невядома, ні з кім выпіць, ні з кім закусіць. У Беластоку ўжо зручней. Як бы не было, а таго-сяго ведаем. Прадамо парсюка або кароўку. Быў бы грош, будзе каму і ўзяць. Ну і людзі — не свінні, хто бярэ — падкажуць.

Кажам Юрку, каб паміж беластоцкімі школамі выбіраў. А дзе там — давай яму толькі беларускі ліцэй! А Гандзя мая раскудакалася, як тая квактуха:

— А Юрачку ратуй! А нічога не шкадуй! А дзесятка гэта ж наша бедненькае кепска ацэняць, спіхнуць набок!..

— Добрае, — кажу, — „дзесятка", адразу буханку хлеба ды кіло каўбасы ўвапрэ, толькі давай! Перарос мяне, старога!

Але, хто ж бабу калі пераканаў? Хлапцу зараз вусы пачнуць расці, а яна б яму ўсё цыцку тыцала! Ды і самому думаецца інача. Разумнейшыя ж ад мяне ў лапу даюць, нейкіх там крывых сцежак-дарожак сваім дзецям шукаюць...

А Юрку тым часам начхаць на нашы клопаты! Як залезе з раніцы з кніжкамі ў садок, да вечара дахаты не вернецца. Да экзаменаў так рыхтуецца. Гандзя ўсё туды і бегае. То з параным малачком, то з супікам, то катлетку занясе, ці пеўніка зварыць... Ну, думаю, калі ты, шалапут, не цікавішся сваёю будучыняй, то і я не буду мазгоў сабе марачыць, знаёмстваў шукаць. Рабі, сын, як ведаеш.

І падумайце толькі, людзі добрыя! Прынялі абалтуса гэтага ў ліцэй! Здаў вельмі добра ўсе экзамены!

Учора ізноў Нінка Круціха забягала. Марысю яе ў гэтым годзе не ўзялі ў тэхнікум. Прасіла хоць у наступным дачку „ўстроіць", параіць, як кум куме. Што даць, колькі і каму.

— А ідзі да нашага Юркі, — кажу куме, — папытайся. Ён, хоць як і ўвесь наш род, няўдалы, у гэтых справах — амаль прафесар!

**Юрка Геніюш**
*(са зборніка „З маёй званіцы")*

# ВЯЛІКІЯ СТАРАЗАПАВЕТНЫЯ ПРАРОКІ

У Біблії змяшчаюцца кнігі чатырох г.зв. вялікіх пракоаў у адрознэнне ад дванаццаці малых пракоаў. Гэта — па чарзе: Ісаія, Іярэмія, Іезекііль і Данііл. Два першыя прарочылі сярод яўрэйскага народа яшчэ да падзення Іудзейскага Царства (якое праіснавала на 100 гадоў даўжэй за Ізраільскае Царства). Два апошнія былі пракомі сярод свайго народа ў час вавілонскай няволі.

### Прарок Данііл

Паходзіў ён з царскага роду і разам з іншымі дзецьмі з саноўных яўрэйскіх сем'яў у час вавілонскай няволі трапіў на двор цара Навуходаносара II дзеля выхавання. Данііл знаходзіўся ў Вавілоне да сваёй смерці. Прадвяшчаў ён і пры Навуходаносары, і пры яго сыне Валтасары, а таксама пры мідыйска-персідскіх царах Дарыю і Кіры, якія заваявалі Вавілон. Прадказаў ён нараджэнне Месіі і прыход Яго Царства, якія мелі наступіць пасля сямідзесяці сядміц, г.зн. 490 гадоў пазней. У сваіх прароцтвах прадвяшчаў, што Хрыстос будзе аддадзены на смерць, а Іерусалімскі храм і горад будуць разбураны, што скончыцца старазапаветнае ахвярапрынашэнне (Данііл, 9:23—27). Чарговым уладарам, якія з Божай дапамогай царствавалі над Вавілонам, разгадваў сны і адкрываў прадказанні: Навуходаносару — сон (Данііл, 2:1—49) аб яго царстве і чарговых, якія будуць пасля яго, ці вядомае „мене, тэкел, упарсін" на прыёме ў Валтасара (Данііл, 5:1—30). Пры панаванні Дарыя яго ўкінулі ў львіны роў, але Бог ратуе Свайго слугу таксама як і трох юнакоў, якіх укінулі пры цары Навуходаносары ў распаленую печ. Памёр ён каля 530 года ў Сузе — сталіцы адной з правінцый Персіі.

### Прарок Ісаія

Быў ён першым з вялікіх пракоаў у Іудзейскім Царстве. Прадвяшчаў каля шасцідзесяці гадоў і, як Данііл, таксама паходзіў з царскага роду. У сваёй кнізе ён кляймуе і папракае яўрэйскі народ за ідалапаклонства і падзенне станоўчых нораваў. Ён быў прызваны шляхам цудоўнага бачання Госпада Бога і ачышчэння гарачым вугалем цераз аднаго з Серафімаў (Ісаія, 6:1—8). Прадказаў ён як Божае пакаранне нашэсце асірыйцаў і халдзеяў, разбурэнне Іерусаліма і Саламонавага храма. Прадвяшчаў таксама вяртанне з вавілонскай няволі пры цары Кіры і адбудову Іерусаліма разам з храмам. Прароцтвы Ісаіі аб Хрысце так ясныя, што называюць яго старазапаветным Евангелістам. Прадказаў ён, між іншым, што Збавіцель будзе Богачалавекам, што будзе ён з роду цара Давіда, і што народзіцца ад дзевы (Ісаія, 7:14). Прадвяшчаў таксама, што Яго прыход будзе папярэджаны Прадцечам (Ісаія, 40:3), што будзе Ён здзяйсняць цуды, аздараўляць хворых і ўваскрашаць памерлых і прынясе Сябе ў ахвяру за грахі свету (Ісаія, 52:13 — 53:12). Прарок Ісаія быў таксама надзелены дарам учыняць цуды. Загінуў ён пакутніцкай смерцю каля 710 г. д.н. Хрыста пры панаванні цара Манасіі, перапілаваны драўлянай пілою паміж дзвюма кедравымі дошкамі.

### Прарок Іярэмія

Нарадзіўся ён каля 660 г. д.н Хрыста ў ваколіцы Іерусаліма і паходзіў з сям'і свяшчэнніка. Праз пасрэдніцтва Іярэміі Бог заклікае народ паправіцца і прадвяшчае пакаранне, калі не будзе пакаяння. Прарок дакладна прадказаў падзенне Іудзейскага Царства, разбурэнне Іерусаліма і сямідзесяцігадовую няволю. Спачатку Навуходаносар выратаваў Іерусалім і не знішчыў усяго царства. Народ не слухаў Іярэміі, які гаварыў, што гэта пакаранне за грахі, і аб'явіў паўстанне, у выніку чаго вавілоняне знішчылі сталіцу і Іерусалімскі храм у 587 г. д.н. Хрыста. Тады таксама прапала Скінія Збору, а ўвесь народ (за выключэннем самых бедных, якія мелі займацца земляробствам) павялі ў няволю. Іярэмія застаўся ў Іерусаліме, дзе на развалінах храма аплакваў беззаконнасць і бязбожнасць народа, а таксама павучаў тых, якія засталіся тут. Ён прадказаў таксама, што з пакалення Давіда прыйдзе Месія, які дасць людзям новы мір і адродзіць чалавека.

Праз нейкі час, застаўшыся ў Іудзеі, яўрэі збеглі ў Егіпет і ўзялі з сабой Іярэмію. Калі прарок стаў папракаць іх, што прымаюць егіпскія звычаі, яго забілі камянямі.

### Прарок Іезекііль

Жыў ён у тым самым часе што і Іярэмія. У няволі апынуўся яшчэ да канчатковага разбурэння Іерусаліма Навуходаносарам. Трапіў там разам з дзесяццю тысячамі саноўных яўрэяў, якіх пасялілі над адным з прытокаў Еўфрата. Калі яму споўнілася 30 гадоў, Бог прызваў яго прадвяшчаць сярод зняволенага народу. Тады з'явіўся яму бажэственны мужчына, які сядзеў на прастоле па-над галовамі чатырох крылатых істот з тварамі чалавека, льва, вала і арла. Потым з'еў ён скрутак з надпісам „плач, і стогн, і гора" і такім чынам атрымаў дар прарочання (Іезек., 1:1—3:4). Прадказаў ён падзенне Іудзейскага Царства, вяртанне з няволі і адбудаванне храма, прыход Месіі і Яго Царства, а таксама прызванне да яго язычнікаў. Найбольш вядомае прароцтва Іезекііля — аб уваскрэсенні памерлых. Нягледзячы на тое, што паказвае яно заадно на адраджэнне выбранага народа, які знаходзіцца ў няволі, дык яно дадзена нам Богам як наглядное ўяўленне паўсюднага ўваскрашэння. У час паўторнага прыходу Хрыста сілай Божага Слова целы памерлых спалучацца са сваімі душамі і ажывуць, г.зн. уваскрэснуць (Іезек., 37:1—14). Сваім словам намагаўся ён ахоўваць кожнага ад няшчасцяў няволі і канчатковай духоўнай смерці паміж язычнікамі. Пры сваім жыцці здзяйсняў многія цуды, між іншым размнажаў харчы. Паводле традыцыі, быў ён забіты адным з іудзейскіх князёў, якога папракаў у язычніцтве. Прарока пахавалі недалёка Багдада і яшчэ ў XII ст. н.э. у пустынным месцы над Еўфратам паказвалі магілу прарока Іезекііля.

С.Н.

# Далёка ад Радзімы



Уладзімір Курыловіч нарадзіўся 18 верасня 1915 года ў Беластоку. Ад наймалодшых гадоў хадзіў ён разам з бацькамі ў царкву пры вуліцы Ліповай, у якой асабліва захаплялі яго іконы. Дома шчыра маліўся і марыў, каб у будучыні стаць свяшчэннікам. Вучыўся вельмі добра і ў пачатковай, і ў сярэдняй школах. Асабліва любіў маляваць і пасля завяршэння навукі працаваў нават нейкі час свецкім царкоўна-касцельным маляром. У 1937—38 г.г. служыў у войску, спярша ў Сувалках, потым у Гродне. Незадоўга пачалася вайна і ён зноў папаў у армію, у Асовец. Ужо ў ходзе вайны яго часць падалася за маршалкам Рыдзам-Сміглым у напрамку Румыніі, але пад Кобрынам акружылі іх з аднаго боку немцы, а з другога саветы і пасля кароткай бітвы папаў ён у савецкі палон, з якога ўдалося яму ўцячы і вярнуцца ў Беласток. У 1940 годзе ажаніўся і стаў на працу ў беластоккае дэпо, дзе маляваў вагоны. Падчас нямецкай акупацыі маляваў таксама цэрквы, м. інш. у Заблудаве і Рыбалах. Пасля вайны, у 1945 годзе выехаў з сям'ёй у Мрангова, каб заснаваць праваслаўны прыход. У тыя стораны наехала многа моладзі з Беласточчыны. Было многа клопатаў з заснаваннем храма. З дапамогай прыйшоў евангеліцкі пастар Ян Пшэх — падарыў лютэранскую капліцу, якая стаяла на могілках. Тут таксама не абыходзілася без клопатаў, якія стваралі ўлады горада і функцыянеры бяспекі. Спасыляліся яны на забарону ўкраінцам пасля акцыі „Вісла", якія хацелі маліцца ў праваслаўнай святыні за сваю крыўду, гуртавацца не больш, чым па 5 чалавек. Аднак усе гэтыя клопаты ўдалося пераадолець. У 1949—56 г.г. Уладзімір Курыловіч служыў дзяканам у Мрангове. У 1956 годзе яго перавялі ў Крынкі, дзе быў вікарыем. Стаў карэспандэнцыйна вучыцца ў Духоўнай семінарыі ў Варшаве і пасля яе заканчэння ў 1969 годзе атрымаў прыход у Арнеце. Царква там знаходзіцца ў будынку былой лютэранскай кірхі, пабудаванай у 1929 годзе. Побач царквы распалажаны старыя могілкі, дзе кожны год у Дзень памерлых а. Уладзімір служыць малебен за тых людзей, якія там раней жылі і маліліся. Сённяшні праваслаўны прыход у Арнеце налічвае 50 сем'яў, у тым ліку 70 душ пажылых людзей. Маладыя ў храм не ходзяць, жэняцца з каталікамі і адыходзяць ад нашай веры. Варта прыгадаць свяшчэннікаў, якія служылі Богу ў гэтым храме: Яўгеній Навумаў, Аляксей Нестаровіч, Міхаіл Калін, Рыгор Місіюк і Анатолій Кірык.

Я вельмі рады, што ўдалося мне пазнаёміцца з айцом Уладзімірам і матушкай Любай і пачуць ад іх родную беларускую мову. Жадаю ім многа здароўя, шчасця і многіх гадоў жыцця.

Андрэй Гаўрылюк

# ІКОНЫ

## Частка XIV

Прывяду сёння перадапошнія развагі маёго бацькі Андрэя Баршчэўскага аб рэлігійных праблемах і аб іконах.

„Калі я быў у царскім войску, то ў нас у батарэі служыў ефрэйтар Іван Іванавіч Сокалаў. Гэты ефрэйтар паходзіў дзесь з-пад Пецярбурга, але скуль напэўна, то я не помню. То гэты ефрэйтар расказаў нам такую гісторыю пра ікону. Сказаў, што ў яго мясцовасці знаходзіўся вельмі слаўны манастыр, у каторым жылі манахі. І значыцца, у гэтым манастыры пачалі адбывацца чудзеса. Ну, а гэты чудзеса то былі ў тым, што пачала плакаці ікона Божае Мацеры. І такая пайшла пра гэта слава, што спачатку пачаў валіць у манастыр тлум толькі з таго горада, а пасля з цэлай губерні, ну, а ў канцы канцоў пачалі людзі прыходзіць пачці што з усяе Расеі. Людзі пакідалі сем'і, жывіну, поле і ішлі ў манастыр да гэтае заплаканае Божае Мацеры, каб вымаліці ў яе шчасце і багацтва.

А ўсё гэто рабіласё ў гады цара Пятра Вялікага. Паглядзеў Пётр Вялікі, што будзе бяда, бо людзі перасталі і гараць, і сеяць, і гадаваць, і пастанавіў паехаці ў манастыр, каб на месцы разабрацца ў чым дзело. Прыехаў, прабіўся праз тлум, паглядзеў і ўбачыў, што Божая Маці напраўду плачэ рэўнымі слязамі. Але Пётр Вялікі не такі быў прастачок, каб адразу ўзяці і ва ўсё паверыці. Пабачыў ён, што ікона моцна ўпушчана ў сцяну і зняць яе не можна. Ну, то ён пайшоў за гэту сцяну, на каторай была ікона павешана, глядзеў, глядзеў, але нічога не ўбачыў і так не мог дабрацца да адваротнага боку іконы. Але калі яго прыслужнікі запалілі свечкі, то цар нарэшце знайшоў тайныя дзверы, каторы вялі да іконы. І што ён пабачыў? Пабачыў, што манахі прыстроілі да іконы бляшану пасудзіну. Ад гэтае пасудзіны правялі дзве тоненькія трубкі да ачэй Багародзіцы. Пасудзіну напоўнілі вадою і пусцілі ў яе рыбкі. Калі рыбкі стаялі ў адным месцы, то не было на вадзе валны і вада праз трубкі у очы Багародзіцы не цякла, а як толькі рыбкі пачыналі плываць, то падніміліся дробненькія волны і кропелькі вады тады цяклі праз трубкі і Багародзіца пачынала нібыто плакаці.

Ну, а ведомо, што цар Пётр Вялікі быў чалавекам суровым, ніякага ашуканства не любіў. Ну і пасля гэтаго ён склікаў усіх манахаў і ігумена манастыра і сказаў ім: „Слушайте меня внимательно, коль ваша Богородица не перестанет плакать фальшивыми слезами, то жопы монахов от розог заплачут истинной кровью".

Так нам расказаў гэты Сокалаў, а чы гэто праўда была, чы не, то я гэтаго сказаці ні магу. Ну, і яшчэ хачу табе расказаць пра адну цікаву справу. Калі да нас прышлі саветы, то маладыя хлопцы з Лукі запісаліся ў камсамол. Пачалі да іх прыязджаць з раёну розны парційныя інструктары. Былі гэто жыды. Гэто яны іх бунтавалі процію Бога і рэлігіі. Аднаго разу я варочаюся з поля ў Смольні, а гэты камсамольцы стаят на бандарскім мосці і гарланят песню:

*Чорту мы паломім рогі*
*Богу вырвем бараду.*

Затрымаў я кабылу і гавару ім: „Хлопцы, што вы дурныя песні спяваеце, лепш займіцеся якімсь добрым дзелом". А яны задзірліва пытаюцца: „А якое гэто дзядзьку вэдлуг вас добрэ дзело?" А я ім гавару: „Хлопцы, вы можаце сабе ў Бога не верыць, гэто вашэ дзело, але не спявайце такіх песень, каторы абражают тых людзей, каторы верат. А што вы можаце зрабіці без людзей? А добрэ дзело вы зробіце, калі па дарозе з Лукі да Баравога падсыплеце жвіру, бо вазы там гразнут. З падмурка пад школаю у Луцэ павыпадалі камене, то можаце іх у фундамент замураваць. У пару ўдоваў у Луцэ з хат паспаўзала салома і дроў у іх няма, то можаце падправіці стрэхі і дроў загатовіці. От, гэто будзе добрэ дзело. І людзі вас будут шанаваці і любіці".

А яны мне знаеш што гаворат? А гаворат так: „Ленін сказаў, што ўсіх бяздомных і бедных пераселім у панскія палацы". А я ім на гэто: „А дзе тые панскі палацы ў нас, у каторы вы хочаце перасяляці тых удоваў? У нас іх нідзе німа. Я Леніна наслухаўся будучы ў Расеі. Можэ ён і хочэ дабра для бедных, але і крыві то ён праліў ні мало".

Адзін з гэтых камсамольцаў як не крыкне: „За такіе слова, дзядзьку, то і на белы мядзведзі можна праехацца!"

Ну і я паняў, што гэто дурачкі, каторым у голавы наўбівалі дурнотау і што з імі звязвацца не трэбо.

А знаеш, як усё гэто скончыласё? Прышлі ў сорак першым немцы. Арыштавалі гэтых камсамольцаў, завезлі ў лес за Смольню і ўсіх расстралялі. От табе і маеш! Бачыш, а тыя што расстрэльвалі, значыцца немцы, на пражках мелі напісано „З намі Бог". Я думаю, што навет калі тые камсамольцы і спявалі дурныя песні, то ні можэ быці, каб Бог прыказаў немцам іх расстрэльваці.

Ну, после вайны лучане паставілі на іх магіле крыж і хтось павесіў іконку. От бачыш, як гэто ў жыці бывае."

Алесь Баркі

# Пра Уладзіміра Самойлу

**(з нагоды перакладу працы Аляксандры Бергман на беларускую мову)**

Аляксандра Бергман — вядомая даследчыца беларускай мінуўшчыны, асабліва Заходняй Беларусі, дзе прайшла яе маладосць і дзе пазнала беларускае асяроддзе, яго праблемы, цікавілася гісторыяй і людзьмі. Зацікаўленне і праца ў гэтай галіне сталі неадлучнымі яе жыццёвымі спадарожнікамі.

Перажыўшы зняволенне ў гулагу, пасялілася яна ў Варшаве. Накоплены багаж ведаў безупынна папаўняла доследамі, што склаліся неўзабаве на шэраг публікацый па гісторыі Беларусі, беларускага народу, яго культуры, палітычных і культурных дзеячаў, асабліва праваднікоў Грамады. Навуковая вартасць публікацый А. Бергман на польскай мове зацікавіла не толькі польскіх гісторыкаў. У апошні час перакладаюцца яны на беларускую мову ў Беларусі („Пра Браніслава Тарашкевіча") і за яе межамі. „Весткі Інстытута Беларусаведы" ў Нямеччыне (Leimen - St. Ilgen b. Heidelberg) апублікавалі ў верасні 1993 г. „Біяграфію Уладзіміра Самойлы" ў перакладзе на беларускую мову Міколы Іванова (паводле публікацыі А. Бергман у часопісе „Przegląd Historyczny" ад 1983 г.). Праца гэтая мае біяграфічны характар, але формаю, зместам і ідэяй выходзіць за рамкі самога жыццяпісу. Пісьменніца канцэнтруецца галоўным чынам на дзейнасці таго цікавага чалавека ў галіне беларускай культуры, палітыкі, беларускіх арганізацыяў у 20-х — 30-х гадах нашага стагоддзя ў Заходняй Беларусі, стаўленнем беларускіх дзеячаў і адносінамі польскіх уладаў да беларускага пытання. Асноўнай крыніцай доследаў былі артыкулы, крытычныя распрацоўкі У. Самойлы, расцярушаныя, як успамінае А. Бергман, па розных газетах і перыёдыцы ў розным часе. Канструкцыя працы на аснове такіх крыніц, упарадкаванне паводле праблематыкі, напрыклад, літаратурнай крытыкі, адносіны да палітычных справаў, удзелу ў існуючых арганізацыях змусілі да адступлення ў тэксце ад храналагічнага рэжыму, характэрнага біяграфічным працам. Незалежна ад таго ў біяграфіі характарызуюцца акрэсленыя этапы хутчэй дзейнасці, чым самога жыцця героя. Асаблівую ўвагу прыдае аўтарка кантактам У. Самойлы з яго вучнем Янкам Купалам, у якім адчуў „народнага барда", голас якога ідзе з глыбіні народнай душы і сведчыць, што „беларусы маюць сілы, каб жыць". Матыў сілы да самастойнага жыцця беларускага народа паўтараецца ў аглядзе публікацый У. Самойлы на працягу ўсёй яго дзейнасці. Самойла адкрыў у Іване Луцэвічу Янку Купалу, вызначыў яму жыццёвы накірунак, паказаў творчы шлях, аддаючы хлопца пад апеку Браніславу Эпімаху-Шыпіле. З другога боку Я. Купала адчыніў свайму маладому ўражліваму настаўніку і прыяцелю, хоць адукаванаму, але яшчэ недасведчанаму жыццём, беларускую душу. Наступныя асноўныя заўвагі, якія вынікаюць з той біяграфічнай працы А. Бергман, гэта нарастаючае зацікаўленне У. Самойлы беларускімі справамі, а пасля і асабістае заангажаванне як публіцыста ў змаганні за нацыянальныя і эканамічныя ўмовы беларусаў у міжваеннай Рэчы Паспалітай. У 1921—22 гадах штораз больш У. Самойла ангажуецца ў беларускі рух. Спантанна зарэагаваў на выбар 14 паслоў у польскі Сейм, стаў размаўляць па-беларуску, а нават пісаць і паступова „ўвесь дарэшты ўвайшоў у беларускі рух", больш таго — атаясамліваўся з беларускім народам. Аўтарка спасылаецца, між іншым, на філасофскі трактат Самойлы „Гэтым пераможам". Прыняўшы мову за галоўны фактар кансалідацыі народу, так вызначыў ён сваё крэда:

1. Творчае змаганне за суверэннасць.
2. Дзеянне ў грамадскім адзінстве.
3. Супраціўленне дэнацыяналізацыі і рэвалюцыйнай класавай барацьбе аднароднага ў сваёй аснове беларускага сялянскага народу.

Стаўшы прафесіянальным палітычным публіцыстам, да канца стаяў ён на грунце свайго крэда, што ясна вынікае з працы А. Бергман. Даследчыца вылучае некалькі этапаў дачынення У. Самойлы да беларускай справы, асабліва ў віленскі перыяд яго жыцця; гэта:

1. Наладжанне і паглыбленне кантактаў з беларускім інтэлігенцкім асяроддзем, асабліва з Б. Тарашкевічам, А. Луцкевічам.
2. Творчае заангажаванне і энтузіястычная, плённая публіцыстыка ў 1922—1924 гадах. Ад 1923 г. удзел у Беларускім нацыянальным камітэце і ад 1924 г. — у Беларускім навуковым таварыстве.
3. 1925—1927 г.г. — перыяд палітычнай прафесіянальнай публіцыстыкі ў супрацоўніцтве з Грамадою.
4. Разрыў з беларускімі арганізацыямі ў 1927 г. з прычыны антынацыянальнага курсу КПЗБ і ўплыву яе на левае крыло Грамады ды варожасць між рознымі беларускімі групоўкамі пасля разгрому Грамады.
5. Ад 1930 г. — вяртанне У. Самойлы да супрацоўніцтва з Беларускім навуковым таварыствам, удзел у Музейнай радзе Музея І. Луцкевіча і спарадычныя артыкулы ў газеце А. Луцкевіча і Р. Астроўскага.

Аляксандра Бергман паказвае Уладзіміра Самойлу як сумленнага, адважнага, працавітага публіцыста не толькі палітычнага і не выключна беларускага. Ён пісаў аб тым, што яго цікавіла, сцвярджае даследчыца, пра У. Караленку, А. Блока, і да А. Блока, пра Вацлава Ластоўскага, працу якога „Гісторыя беларускай кнігі" назваў капітальным творам. Супрацоўнічаў з газетамі „Крывіч" (Коўна), рускай эміграцыйнай прэсай, пісаў у польскія газеты, асабліва ў „Przegląd Wileński" і іншыя.

У працы А. Бергман шырока характарызуецца публіцыстыка У. Самойлы, перш за ўсё на беларускія тэмы, згадваецца яго ўдзел у Грамадзе, у Беларускім нацыянальным камітэце, Беларускім навуковым таварыстве, у Радзе музея І. Луцкевіча, не ўдакладняючы ягоныя функцыі ў гэтых арганізацыях. Насоўваецца тады пытанне: Ул. Самойла быў для беларусаў толькі прыхільным публіцыстам, ці нацыянальным дзеячам у шырэйшым гэтага слова значэнні?

Адказ на гэтае пытанне А. Бергман пакідае чытачу, а мо іншым гісторыкам, што не зменшвае значэння яе працы для беларускай гістарыяграфіі, сумленнасці пераказу, трапнасці высноў і выводаў з дзейнасці гэтага выдучага беларускага публіцыста 1920-30-х гадоў.

**Янка Жамойцін**

# З панам Рысем у пушчы

Я ўжо пісаў у „Ніве" пра здымкі, якія ў Белавежы выконваліся ў палове жніўня г.г. для тэлесерыяла „Клуб пана Рыся". І, вось, 29 верасня г.г. мы маглі паглядзець па тэлебачанню эфект гэтай працы. Белавежскі адрэзак называўся „У пушчы" і быў чацвёртай серыяй.

Рышард Выжыкоўскі — галоўны герой тэлесерыяла, знаёмы з Белавежскай пушчай трох вучняў лодзінскіх пачатковых школ: Олю, Касю і Лукаша. Спачатку дзеці выбраліся фурманкай, якой кіраваў Барыс Валкавыцкі, у запаведнік прыроды. Зараз за варотамі сустрэлі яны навуковага працаўніка, які з антэнай у руцэ лакалізаваў у пушчы рысь, якой раней залажылі перадатчык. Дзеці спадарожнічалі навукоўцу, калі нечакана напаткалі... пана Рыся, які — як потым выявілася — спецыяльна пераняў ролю пушчанскага драпежніка. Пан Рысё растлумачыў дзецям працу даследчай апаратуры, затым пачалося наведванне пушчы. Дзеці пазнаёміліся з рознымі тыпамі лясоў, даведаліся пра біялагічную раўнавагу ў натуральных пушчанскіх нетрах. Аглядалі велічэзныя паваленыя дрэвы, а таксама розныя карэнні ці галіны, у якіх дашукоўваліся вобразаў нейкіх дзікіх звяроў (скажу пад сакрэтам, што былі гэта экспанаты, пазычаныя з галерэі Тамары Тарасевіч).

Нарэшце усе нанеслі візіт славутаму дубу „Ягайлы", які... прамовіў да сваіх наведвальнікаў людскім голасам і крыху расказаў аб сабе. Потым пан Рысё расказваў пра працу бортніка і яго „памочніка" мядзведзя (у той час паказваліся фрагменты архіўнага фільма Уладзіміра Пухальскага).

І вось дзеці з панам Рысем ужо ля гаёўкі (лясной старожкі) Дзедзінка, у якой жывуць навуковец Сымона Косак і фатограф Лех Вільчэк. Тут яны пазнаёміліся з жывым пугачом.

Пасля кароткага адпачынку, Лукаш, выкарыстоўваючы свае ... паранармальныя здольнасці, „выклікаў" статак зуброў. Пан Рысё расказвае пра іх, а мы глядзім кадры з каралямі пушчы, якія раней зрабілі Барбара і Ян Чэчы.

Едучы далей фурманкай паўз лес, дзеці прыкмячаюць сярод дрэў пустэльніка. Частуюць яго каўбасой і апавядаюць яму аб розных тэхнічных здабытках чалавецтва. Пустэльнік у сваю чаргу паказвае вучням, як лавіць лясных грызуноў у пастку (таксама экспанат з галерэі Т. Тарасевіч). Дзеці аглядаюць злоўленую мышку, а пан Рысё расказвае аб дробных звярах, якія жывуць у пушчы.

Стомленая экскурсіяй Оля засынае на палянцы. Сняцца ёй розныя пушчанскія звяры, якіх аглядае паночы, пры дапамозе кішэннага ліхтарыка (сапраўды — гэты сюжэт здымалі ноччу ў Прыродазнаўчым музеі). У канцы падарожжа па запаведніку прыроды, пан Рысё пужае дзяцей чучалам зубрынай галавы, высоўваючы яе з кустоў.

Яшчэ кароткі візіт у паказны запаведнік пушчанскай звярыны, дзе дзеці кормяць тарпанападобных конікаў, і... развітанне з Белавежскай пушчай.

Тэлесерыял „Клуб пана Рыся" дэманструецца па ІІ праграме Польскага тэлебачання, па чацвяргах, а гадзіне 19.35 Яго рэжысёрам з'яўляецца Мікалай Гарэмскі. Аўтар здымкаў — Раман Дэмбскі (ён таксама зняўся ў ролі пустэльніка ў белавежскай серыі), а музыку напісаў Анджэй Краўзэ.

**Пётр Байко**

# „Дрындушкі"

У нядзелю раніцай, 13 лістапада, у „беларускамоўнай" перадачы па Беластоцкаму радыё рэдактар Уладзіслаў Праховіч зламысна перакруціў маё выступленне на пленуме ГП БГКТ ад 6 лістапада г.г. З перададзенай фальшывкі вынікала, быццам бы я беларускія народныя песні Беласточчыны пагардліва назваў „дрындушкамі".

Нікому не таямніца, што пры сённяшняй тэхніцы з кожнага запісанага на магнітафоннай стужцы выказвання зламыснік можа зрабіць усё, што толькі яму ўздумаецца. І такім фальшаваннем заняўся сп. Уладзіслаў Праховіч, палічыўшы сябе за такую вялікую і важную асобу, што яму ўсё дазваляецца. Але са мной яму такія фокусы не ўдадуцца, бо я маю брыдкую звычку кожнае сваё публічнае выступленне папярэдне напісаць, а потым прачытаць людзям. І на гэты раз было таксама. Вось што я прачытаў на пленуме:

„Вельмі добра, што ў плане дзейнасці БГКТ на 1994/95 культурна-асветны год прадбачваецца запрасіць з Беларускай Рэспублікі на выступленні на Беласточчыне артыстаў-прафесіяналаў. Нам вельмі патрэбна знаёмства з вакалістамі, інструменталістамі, акцёрамі і іншымі майстрамі беларускага прафесіянальнага мастацтва. Яны пазнаёмяць нас з лепшымі творамі беларускіх кампазітараў, драматургаў, пісьменнікаў. Неабходна, каб побач з нашымі і з Беларусі самадзейнымі салістамі і калектывамі выступілі ў нас прафесіянальныя калектывы з Беларускай філармоніі, капэлы і салісты, каб тэатры прыязджалі з лепшымі пастаноўкамі беларускай класікі, каб тут выступалі самыя папулярныя мастацкія калектывы, адбываліся выстаўкі сучасных беларускіх мастакоў, каб у нас праходзілі тыдні ці дні беларускага фільма, каб наведвалі нас паэты і празаікі, выступалі вучоныя, асабліва патрэбны нам гісторыкі і гэтак далей. Мы хочам мець доступ да поўні беларускай культуры — і народнай і прафесіянальнай. Нельга ж так рабіць, як Беластоцкае радыё — увесь час перадаваць толькі нейкія дрындушкі. Мы не можам дазволіць, каб з нас зрабілі фальклорны кур'ёз, скансэн абарыгенаў, як з індзейцаў у Амерыцы. Побач з самадзейным мастацтвам нам патрэбны доступ да высокасусэнічнага прафесіянальнага мастацтва. Гэта нам павінны забяспечыць польскія ўлады, тутэйшыя культурна-асветныя ўстановы, у тым Беластоцкая філармонія, тэатр імя А. Вянгеркі, маладзёжныя арганізацыі.

Па-другое, на Беласточчыне цяпер днём з агнём не знойдзеш у продажы беларускіх кніг, часопісаў, газет з Рэспублікі Беларусь. Калісьці не толькі ў кнігарнях на вул. Кілінскага ці Рынку Касцюшкі ў Беластоку, але і ў Бельску, Гайнаўцы, Саколцы і іншых гарадах былі, хоць і беднаватыя, але ж былі, у кнігарнях палічкі з беларускімі выданнямі. Цяпер няма нічога. „Дом ксёнжкі" і „Рух" дбаюць толькі пра мільённыя даходы і баяцца, што згінуць, калі на Беласточчыне будуць людзі чытаць беларускае друкаванае слова. Прысутнічаючы тут, на пленуме, прадстаўнікі ўладаў і культурна-асветных устаноў — няхай жа зоймуцца і гэтай вельмі балючай для нас, беларусаў, справай".

Але ўлады ды ўстановы не адчуваюць сябе ў абавязку займацца гэтымі справамі! Іх рабалепна выручыў ці то па сваёй ініцыятыве, ці то атрымаўшы спецыяльнае заданне рэдактар Уладзіслаў Праховіч. Проста ён узяўся кампраметаваць мяне перад слухачамі. Нарыхтаваў ён фальшыўку пра тое, быццам бы я выступіў на пленуме супраць нашых народных калектываў, гурту „Рэаль" і нават спеваў Данчыка! А я ж, як таму доказ тэкст майго выказвання і ўдзельнікі пленума, ні словам не прамовіўся ні аб „беларускамоўных" перадачах, ні пра сп. Уладзіслава Праховіча. Відаць, сп. Уладзіслаў Праховіч найлепш ведае, што гэта толькі ён па Беластоцкаму радыё перадае прымітыўныя дрындушкі і таму гэтак на мяне ўз'еўся. Не дарма народная прыказка кажа: „Стукні ў стол — нажніцы самі адазвуцца".

У перадачы сп. Уладзіслаў Праховіч робіць мне закід, што я патрабую перадаваць па Беластоцкаму радыё беларускія сімфоніі і оперы. Праўда! Настойліва патрабую і не толькі я, каб замест надаядання ўсім бязглуздай балбатнёй пра нішто, або пра тое, што думала бабулька, стоячы ракачам за клуняю, ці амаль штодзённага пускання парна-песенькі „Аябаба...", няхай рэдактар Уладзіслаў Праховіч знаёміць людзей з самымі лепшымі арыямі і хорамі з беларускіх опер і аперэт, сучаснымі беларускімі песнямі, урыўкамі інструментальнай музыкі беларускіх кампазітараў. Гэтага чакаюць не толькі беларусы Беласточчыны, але і палякі, бо ўсе хочуць пазнаёміцца з музычнай культурай сваіх суседзяў.

**Мікола Гайдук**

*ВІНЦУК АСЬЦЮК*

### Самотны Дзед Мароз

Нам на свята Дзед Мароз
Анічога не прынёс.
І цяпер самотны сам —
Не далі яму ста грам.

### Ашалеў

У кватэры нашай гора,
Хоць ты выкінься з вакна —
На базар хадзіў учора,
Пакусала там цана.

### Не справіўся з абавязкамі

Я Новы год чакаў, нібы ратунку,
І вось сяджу ў двары на клунку.
Прагналі з дому жонка і дзятва,
Бо не прынёс ні хлеба, ні пітва.

### Кожнаму сваё

Угледзеў Снягурку дзед
І пайшоў за ёй услед.
І ў Снягуркі інтарэс,
Бо ў старога — „Мерсэдэс”.

### „Чаканы госць”

Абяцаў на Новы год
Да мяне прыйсці Фядот.
Цэлы дзень яго чакаю —







*Старыя цацкі на вагу.* Мал. Мар’юша Закшэўскага

*Аляксандр Пярлюк*

## „Вораг” народа

— Паслухай, Іваноў, ты што любіш есці?

— Ды ўсё люблю: хлеб люблю, гарбату люблю, ваду...

— А каўбасу любіш?

— Яшчэ як люблю! Тыдні тры назад, помню, еў ліверку — вельмі смачная каўбаса, проста аб’ядзенне — пальчыкі аблізаш!

— Ну, а вэнджанай „Маскоўскай”, напрыклад, паеў бы?

— А чаму б не паесці — яшчэ як з’еў бы!

— І колькі б ты мог за адзін прысест з’есці „Маскоўскай”? Паўкілаграма змог бы?

— Няма чаго рабіць!

— А кілаграм?

— Раз плюнуць!

— А тры кілаграмы?

— І тры з’еў бы!

— А пяць кілаграмаў з’еў бы?

— Пяць кілаграмаў за адзін прысест?

— Так!

— З ахвотай з’еў бы. А чаму ты ў мяне пытаешся?

— А таму! Цяпер мне зразумела, куды каўбаса падзелася, хто ў краіне ўсю каўбасу з’еў. Абжора! Шкоднік! Вораг працоўнага народа! Гэй, людзі, суродзічы, усе сюды! Трымайце Іванова, гэта ён усю каўбасу злопаў, ён мне сам толькі што прызнаўся!

**Пераклаў з рускай мовы Валеры Бабей**

<u>Навагоднія дыялогі</u>

### ВЯЛІКАЕ ГОРА

— Сустрэча Новага года прынесла мне вялікае гора...

— Чуў, суседзе, чуў, што тваю жонку „хуткая” ў бальніцу завезла.

— Ды гэта дробязь. Корак з-пад шампанскага трапіў у люстру. Лямпачка разляцелася на драбнюткія кавалачкі. А жонка, дурніца, як лямпачка выстраліла, так напужалася, ажно сэрца схапіла. Нічога, паляжыць — вылечыцца. Гэта — не гора.

— А што ж тады ў цябе за гора такое!

— Дык я ж ужо сказаў: лямпачка разбілася!

### ВЫДАТНЫ БАЛЬ

— Ці спадабаўся табе ўчарашні навагодні баль?

— Баль выдатны! Такой сукенкі, як у мяне, не было ні ў адной жанчыны!

Падслухаў
**Я. Хрыстоўскі**

## СЕНТЭНЦЫІ

Чорнае — гэта белае,
толькі пад слоем сажы.

* * *

І слуп бяжыць, толькі ў месцы.

* * *

Калі ўміраюць дрэвы,
свет нямее.

* * *

Пузатая хмара — крапіла неба.

* * *

Ад гісторыі можна ўцякаць,
але ўцячы немагчыма.

* * *

Баюся, бо не разумею.

**Барыс Руско**

## Смех у санаторыі

* * *

— Што можаце сказаць пра вядомых філосафаў, як Кант, Вальтэр, Арыстоцель?

— Усе яны ўжо памерлі, спадар прафесар.

* * *

— Што такое пераймальнасць? — запытала ў Вані настаўніца біялогіі.

— Пераймальнасць выяўляецца тады, калі вучань атрымлівае нуль за хатнюю працу, якую напісаў бацька.

* * *

— Што такое прапаганда? — пытаецца Коля ў свае мамы.

— Прапаганда — гэта такая пахвала, якую выказвае твой бацька пра маё старое паліто, калі я прашу ў яго купіць новае.

* * *

— Кацярына, чаму ты не сядаеш? — пытаецца настаўніца.

— Бо тата падпісаў мне ўчора дзённічак.

* * *

Грышка ў аўтобусе да шафёра:

— Маглі б вы першыя два кіламетры пераехаць з хуткасцю 30 км/гадз., а апошнія тры з хуткасцю 50 км/гадз.

— Чаму так?

— Я пабачыў бы колькі на гэта спатрэбіцца часу і рашыў бы тады сваю задачу па матэматыцы.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**




Дарагое Сэрцайка! Кахаю яго, як шалёная, а так жа не павінна быць, сама ведаю. Калі кінуў мяне першы раз, дзіцятка мела годзік. Вярнуўся праз год, не агледзеліся, як ізноў я зацяжарыла. Калі нарадзілася другое дзіця, мы перайшлі жыць да яго бацькоў, у другую вёску. У маіх бацькоў яму не спадабалася.

А там было як вытрываць. Свякруха толькі ганяла мяне з кутка ў куток. Хаця дзеці былі маленькія, а займалася імі толькі я, трэба было і на гаспадарцы рабіць, і варыць, і прыбіраць, і бялізну мыць. А муж далей гуляў. Новае дзіцятка доўга яго не цешыла.

Урэшце нервы мае не вытрывалі. Я сабрала свае манаткі, і бацькі забралі мяне з дзеткамі да сябе.

Калі б хто падумаў, што там стала шмат лепш, дык памыліўся б. Мае бацькі таксама не былі захоплены маёй сітуацыяй „саламянай удавы”. Муж наведваў нас мо раз у месяц, але не дзеля таго, барані Божа, каб падкінуць нейкі грош. Пагаварылі, пераспаліся і... да мамы. А я заставалася з дзецьмі на ўтрыманні немаладых ужо бацькоў.

Час ішоў, усё гэта пачало не на жарты злаваць майго бацьку. Каб была вучылася, а не з хлопцамі цягалася, дык мо сёння чалавекам была б, казаў ён. Выбрала сабе прыгажуна! Цяпер усё жыццё на яго байструкоў працаваць буду! О не, даражэнькая, не і не!

Трэба сказаць, што бацька быў з тых дзядоў, што „сваіх дзяцей ужо выхавалі”. Не любіўператамляцца. Дзеці яго часта раздражнялі сваёй непаседлівасцю. Любіў сесці ў самаход, праехацца да сяброў у суседнюю вёску. Нават выпіваў, седзячы за рулём. Любіў выпіць і з маім мужам, калі той прыязджаў да нас. Праўду кажучы, былі на сябе ў нечым падобныя.

Бачачы, што нічога добрага мяне ў хаце не чакае, я паверыла добрым людзям, якія дапамаглі мне ўладкавацца ў Беластоку. Наняла пакойчык у летняй кухні і жыла там з дзеткамі. Хадзіла па людзях, шукала дзе што каму памыць ці прыбраць, а пасля знайшла пастаянную працу прыбіральшчыцы ў школе.

Але дзеткі не хадзілі ні голыя, ні галодныя. Мама паціху ад бацькі дзялілася сваёй невялікай рэнтай. Бяры, нам многа не трэба, пераконвала яна мяне. Прывозіла часта то кавалак мяса, то яйкі, то гароднiну. А я жыла без мужа. Старэйшая дачушка дагледала малодшую, і так выхаваліся.

І, уяві сабе, калі адной было дванаццаць, а другой — дзесяць, вярнуўся „назусім” іхны тата. Не скажу, што я не ўцешылася. Можаш уявіць сабе, як засумавала я па мужчынскай ласцы. Дарую яму нават гультайства, бо працуе толькі тады, калі мае ахвоту. Стараюся сама падзарабіць, дзе толькі можна, каб і ён, як дзеці, мог наесціся дасыта.

Але бяда! Дзеці не хочуць прызнаваць бацьку. Меншая дык больш маўчыць, але старэйшая дык з мяне нават кпіць. Слова „тата” не праходзіць ім праз горла. А гэта ж іх родны бацька. Што рабіць?

**Міля**

Міля! Не дзівіся сваім дзеткам. Іх бацька на гэта заслужыў. Не той бацька, што народзіць, а той — што выхавае. Дзе ён быў, калі ён быў ім так патрэбны?! Колькі начэй не праспаў, даглядаючы іх? Цяплом дзіця адказвае на цяпло, а холадам — на холад.

А мо і зайздросныя, што бацька ў нейкай ступені забраў у іх маці, якая дагэтуль жыла выключна дзеля іх. Ды і наогул цяжка сказаць слова „тата” чужому дзядзьку...

Ну, так, але ты яго кахаеш, хацелася б, каб сям’я была сям’ёю. Мусіш шмат папрацаваць над гэтым. Але дзецям што ні гавары — яны ж сваё ведаюць. Пераканай мужа, што толькі ад яго паводзін, ад цяпла ў адносінах да дочак залежыць усё.

**Сэрцайка**

**Пошта Сэрцайка.** Шаноўны чытач са Старога Корніна, які зацікавіўся справай Майкі з 49 нумара „Нівы”! Ваш ліст перадамо ёй пры першай нагодзе. Не можам аднак гарантаваць, што адпіша. Мае, здаецца, іншыя планы.

**С.**